УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)
Ж86

**Жуковіч, В.**

Ж86 Не завіце радзіму малой : кніга паэзіі / Васіль Жуковіч. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 246 с.

ISBN 978-985-6930-49-5.

Аўтара кнігі, багатай жанрава і тэматычна, найбольш хвалююць будучыня бацькаўшчыны, апаленай Чарнобылем і абцяжаранай бальшавіцкай спадчынай, лёсы яе сыноў і дачок, дарагіх яго сэрцу людзей.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

ISBN 978-985-6930-49-5

© Жуковіч В., 2009
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2009

# СВЯЦІСЯ ІМЯ ТВАЁ

## МАМІНА СЛОВА

Мая мама верыла ў Бога.
Не скажу, каб мяне прымушала маліцца.
Толькі ўзяў я з матуліных вуснаў,
Нібы гром, энергічнае,
бы маланка, імклівае
Слова г р э х.

Гэтак проста яна асуджала,
Ушчувала, бывала, яна:
Грэх
ля гора чужога смяяцца!
Грэх
не ведаць ніякае працы!
Грэх
птушыныя гнёзды бурыць!

З гэткім кодэксам рос я, вырас,
З ім падняўся ў свой першы вырай,
Не расстаўся й да гэтай пары.

Сыне мой, ты сыночкаў гадуеш,
Цеплыні сэрца ім не шкадуеш,
Але знай: колькі сонца ўзыходзіць,
Аніколі, нідзе не зашкодзіць
Словы мамы маёй паўтарыць.
Грэх
    ля гора чужога смяяцца!
Грэх
    не ведаць ніякае працы!
Грэх
    птушыныя гнёзды бурыць!



Праз вайну, матулечка, прайшла,
Зведала цяжар нечалавечы.
Колькі помню, ў беднасці жыла,
А сказаць дакладней — у галечы.

Шчаснай доляй Бог не надзяліў
І здароўем добрым — гэтаксама…
Дзеці першым клопатам былі,
Клопатам тваім заўсёдным, мама.

Сэрца працінаў і боль, і сум,
І трывога вечная даймала…
Але свету белага красу
Бачыць аніштo не замінала.

# ШЛЯХ ЗЯМНОЙ МАДОННЫ

## 1. Маладзіца

Дзяўчына стала маладзіцай —
І нарадзілася сям’я,
Маленькая, але свая!..
Дзяўчына стала маладзіцай.

Сама не ўсведамляе, як
Заззяла зоркай мілавіцай.
Дзяўчына стала маладзіцай —
І нарадзілася сям’я.

## 2. Цяжарная

Пад сэрцам матчыным сваім
Жанчына сэрцайка нясе —
Жыццё люляе пакрысе
Пад сэрцам матчыным сваім.

Пра немаўлятка думкі ўсе,
Яна ўжо размаўляе з ім.
Пад сэрцам матчыным сваім
Жанчына сэрцайка нясе.

## 3. Юная мадонна

Краса дзяўчыны й ласка маці
Ў ёй спалучыліся спаўна.
Стыхія быццам бы адна —
Краса дзяўчыны й ласка маці.

Мадонна юная, яна
Ўся расцвіла, як вішня ў садзе.
Краса дзяўчыны й ласка маці
Ў ёй спалучыліся спаўна.

# МАЦЯРЫНСТВА

Збялелая, схуднелая, слабая,
Уся яна ва ўладзе пачуцця:
Здаецца, кожнай тканкаю чакае
Сустрэчы з родным парасткам жыцця!

Паднеслі немаўля — і акрыяла,
Прасветлая, шчаслівая да слёз…
Ад болю яна ледзь не памірала,
Каб парастак жыцця яе прарос.



*Васілю Андрыеўскаму*

1

Калі жыццё прыцісне нечакана —
Да маці шлях з палону цяжкіх дум.
Не страшна расказаць ёй пра бяду,
Калі жыццё прыцісне нечакана.

Збянтэжаны яна падыме дух,
Суцішыць боль, загоіць сэрца рану.
Калі жыццё прыцісне нечакана —
Да маці шлях з палону цяжкіх дум.

2

Да маці шлях травой не зарасце —
Туды вядзе не толькі ў час нягодаў.
З сумленнем згода — не шукаць нагодаў:
Да маці шлях травой не зарасце.

Што ёсць святлей за маміну лагоду,
За маміну любоў што ёсць чысцей?
Да маці шлях травой не зарасце —
Туды вядзе не толькі ў час нягодаў.

3

Нішто пад сонцам не існýе вечна.
Жывая ж маці — й кут бацькоў жывы.

Калісьці стрэнеш там палын сівы…
Нішто пад сонцам не існуе вечна.

Ад страты станешся ніжэй травы,
Істоту ўсю праймацьме жаль сардэчны!
Нішто пад сонцам не існуе вечна.
Жывая ж маці — й кут бацькоў жывы.



На скразняках, скрыжаваннях рэгрэсу
Абараняецца сэрца ад стрэсаў,
З рытму зрываецца, так пратэстуе,
Як бы гаворыць: «Чаму не ратуеш?!
Ча-му? Ча-му! Ча-му?!»

Дапамагаю я сэрцу майму,
Лекі з аптэкі прыношу яму —
Засцерагчы не магу ўсё адно:
Дужа адкрытае свету яно,
Беламу свету ўсяму.

Ломяцца ў сэрца шматлікія драмы…
З юных гадоў я застаўся без мамы,
Мой за яе абавязак маліцца.
Цяжка ад стрэсаў, аднак, затуліцца
Мне без малітваў Яе.

*2003*

# САНЕТЫ ДЛЯ ДАЧКІ

* * *

З табой, даволі юнаю дачкою,
Наіўнай, чыстай носьбіткай святла,
Я гутарыў парой: «Свет поўны зла!» —
Засцерагаў так фразаю цяжкою.

Жыццё не біла жорсткаю рукою,
Ты, верачы ў дабро, душой расла,
Святло нязменна ў сэрцайку нясла
І вырасла даверлівай такою!

Ну што ж, дабру служы і не зграшы:
Ты сябра ў ворагі не запішы,
Але душой відушчай і няквола

Пад маскай мудраца заўваж асла,
Пад маскай прынца распазнай казла,
А д’ябла не прымі хоць за анёла.

* * *

Ты — не прынцэса і не папялушка,
Хоць можаш імі часам і пабыць
У ролях насамрэч. А што рабіць,
Калі актрыса ты, мая дачушка!

Тэатру-храму служыш, шчабятушка,
Так натуральна — талент не пазбыць,
Прафесіі сваёй не разлюбіць,
Бо сцэну любіш, нібы волю птушка.

О, мой ты цуд, з крыві і плоці казка!
Жадаю я табе не знаць фіяска,
А мець жаданых у дастатку роляў

І добрых, незайздрослівых сяброў,
Што значыць (без прыгожых лішніх слоў) —
На сцэне і ў жыцці шчаслівай долі!

* * *

Ты з Мельпаменай, Тэрпсіхорай
Нязменна па жыцці ідзеш,
У канкурэнцыі расцеш,
Натхнёная глядацкім морам.

Па прынцыпе «бяда — не гора»
Я не спытаю: шчасце дзе ж?
Пакуль на сцэне не ўпадзеш,
Пабыць не маеш права хворай,

У сэнсе — дома пахварэць,
Душу і цела адагрэць
Ад рэпетыцый, скразнякоў,
Ад позіркаў і слоў калючых…

Хацела дзейнасці кіпучай —
Не стогнеш і ад гузакоў.

* * *

Не памыляюцца пракокі,
Не спатыкаюцца анёлы.
У іх, святых, і дух няквoлы,
І — да таго ж — палёт высокі.

А нас, мой цвеце яснавокі,
Грахі, памылкі ціснуць долу —
Жыццёвую праходзім школу
У свеце хісткім і шырокім.

Не спатыкнецца канарэйка…
Мы спатыкаемся нярэдка.

І шпаркія нярэдка крокі
Ўпіраюцца у тупікі.
Балячкі нашы, сінякі —
Як плата за жыцця урокі.

* * *

Бывае адзінока між людзей,
Ты кінуць іх гатовая ахвотна.
Адной затое часта несамотна
Сярод высокіх мрояў і надзей.

Бывае, стрэча — лепшая з падзей!..
Адной душы табе даволі — годнай,
Такой немітуслівае, свабоднай, —
Гармонія з табой ужо ідзе!

І мітусня ўсялякая чужэе,
А белы свет імгненна прыгажэе,
І ты ўвесь свет гатовая абняць,

І абуджаюцца такія сілы,
Што за спіною адчуваеш крылы, —
Ідзеш, бяжыш, а хочацца лятаць!

* * *

Заўсёды ў вырай жураўлі
Лятуць няспешна, сіратліва
З адзінай песняю тужлівай
Над краявідамі зямлі…

…І дзе былі, і як жылі,
Спытаць у птахаў немажліва,
Затое бачна, як шчасліва
У родным небе ажылі.

Крыляюць над палямі нізка,
Нібы зусім іх гнёзды блізка;

Ажыўлены птушыны грай,
Крыл паскараюцца узмахі,

Лятуць навыперадкі птахі —
Так прыцягальны родны край!

* * *

Патрапіўшы у паласу нягод,
Ты не шукай знахарак і варожак,
Ніхто з іх пераажыць не дапаможа
Ўраган эмоцый, сцюжу, галалёд.

Ты шарлатанкам не давай нагод…
Я верую: нягоды пераможаш.
Ты не ўпадзеш, калі ўзнімацца зможа
Душа і сэрца ў сонечны палёт.

Свет гэты і прасторны, і багаты,
Ў ім не чакай — стварай паболей свята.

Малю: забудзь залішнія трывогі,
Давай сваёй няўпэўненасці бой,
Ідзі да самай чыстай перамогі,
А перамога тая — над сабой!

* * *

Знайдзі грудок і сцежку ў свет,
Калі навокала балота.
Калі пануе цемра й слота,
Адчуй прыкметны ледзь прасвет,

Як промні адчувае цвет.
Аб запаветным мар употай —
Не будзеш знацца з адзінотай,
Табе адкрыецца Сусвет.

Не дай сабе сябе зламаць.
Не разумееш ты дарма,
Як мудрае жыццё адорыць,

Калі панікаваць не будзеш, —
Якія сілы сэрца збудзіць
І што ўзмужнелы розум створыць!

* * *

Твая на бурным моры шхуна,
Ты заблудзіцца ёй не дай.
«Аб шыраце духоўнай дбай», —
Наказ дае нам геній юны.

Наказ як незямны дарунак
Усёй істотаю прымай.
І ў тума́не, глядзі, трымай
Абраны ўсёй душой кірунак.

Курс — на духоўны шчодры свет.
Наказ прымі як запавет,
Напоўні сэрца ім і розум

І дыхаць ім працягвай, жыць.
Жыві не так, як набяжыць,
Тады й спакусы — не пагроза.

* * *

Няўдала закаханым спачуваеш,
А любаму гатова ўсё аддаць,
Ды дзе яго, ў якіх краях спаткаць,
І ў снах не бачыш, і не прадчуваеш.

Твая журба калі адпачывае?
Так рэдка радасць можа святкаваць!
Каханай-закаханай можна стаць,
Хутчэй, калі не надта і чакаеш.

Пабагацееш рэдкаснаю з’явай,
Калі ў суладдзі стане мроя з явай.
Не засмучайся, а жыццё любі

І памятай: такую трапяткую
І чыстую, ранімую такую
Сваю душу ні з кім не загубі!

* * *

Магутныя такія маеш крылы
На радасць ці на мукі на зямлі?
Яны і развінуцца не маглі,
Калі быў белы свет табе нямілы.

Маёй табе і вытрымкі, і сілы,
Каб на прастору крылы узнялі
І аніколі ўпасці не далі
У свет і агрэсіўны, і панылы,

Дзе цынікі, душою ліліпуты,
Нябачныя табе сплятаюць путы,
Каб забывала ты пра вышыню.

А ты не забывай, што крылы маеш,
І знай, што з імі волю атрымаеш
І захаваеш сэрца чысціню.

* * *

Сюжэт пра капітана Грэя
І пра шчаслівую Асоль
Чытала ў лютую ты золь —
Чужое шчасце слаба грэла.

Нямала маяў адгарэла.
Аціх няўпэўненасці боль.
Ты, быццам Грынава Асоль,
Надзеі ветразі сустрэла.

Калі прыйшла вясна кахання
Ў жыццёвым моры-акіяне,
У міг прастор твой паяснеў.

Нябёсамі багаславёна,
Чытала Грына так натхнёна
У новай — сонечнай — вясне!



Маці, дачка і любімая —
Чыста святое святло.
Столькі святла ў тройцы слоў —
Маці, дачка і любімая!

Сонечна так расцвіло,
Стала яно трыадзінае!
Маці, дачка і любімая —
Чыста святое святло.

*7.01.2008*



Мая не хоча ружа завядаць,
Рубінавым агнём не адгарэла.
Усмешка й радасць помняцца, відаць,
З якімі цёпла ты яе сустрэла.

*23.10.2008*



Вочы твае
Асвятляюць прастор
Стрэлам бровак і веек,
Каб яны трапна білі мне ў сэрца!
Але вусны твае,
Бачу, створаны
Для маіх пацалункаў!
Ёсць надзея:
Нашы вусны дамовяцца
Пра тваю літасць…



Такое яснае прадвесне!
Вясёлы месяц-дабрадзей.
Застолле з песнямі ўваскрэсне,
Вітай сяброў, прымай гасцей.

Прадвесне, шчырае прадвесне.
Высока месяц залаты…
«Ой, сівы конь бяжыць…» —
зноў песняй
Мне пра жыццё гаворыш ты.



У паглядзе тваім —
Мора сонечных промняў.
Я, акрылены, ім
Свет мой белы запоўніў.

Як разлучаць калі
Акалічнасці, людзі,
Светла ў промнях тваіх
Мне й за хмарамі будзе.

*7.12.2008*



Калі ёсць каго кахаць,
Маем верасень здаецца!
Весялей і сэрца б’ецца,
Калі ёсць каго кахаць.

Хай жа век не давядзецца
Вам на долю наракаць…
Калі ёсць каго кахаць,
Маем верасень здаецца!

*25.07.2009*



Цябе запрашаю адну я
Сустрэцца з радзімай маёй,
Услухацца ў казку лясную,
Наслухацца песні лясной.
У восень хадзем распісную —
Сустрэнемся з нашай вясной.
Цябе запрашаю, што значыць —
Шчаслівай хачу цябе ўбачыць…



Пойдзем, любая, у лістапад,
На прастор, пад вырай жураўліны.
Восеньскі гукае далягляд.
Белы шлях — ля полымя рабінаў.
Кінь на шлях і ў даль жывы пагляд —
Зачаруешся не на хвіліну,
Ты душой адчуеш трапяткой
Восені тугу і супакой.

*2004*



Калі я ў палоне
Пекнай тваёй прыгажосці,
Усмешкі тваёй азартнай
З іскрыначкамі ў вачах,
З ямачкамі на шчоках,
Тваіх цёплых абдымкаў
І гарачых тваіх пацалункаў, —
Я тады на свабодзе
Радасці неверагоднай.

Калі ж адпускае мяне з палону
Твая ўгамоненая ўсмешка,
Твае прытомленыя абдымкі
І цёплыя пацалункі,
Я трапляю ў палон
Самоты, гаркоты, рэўнасці неадольнай.

Ці сустракала ты сітуацыю
Настолькі парадаксальную?
Ці чула дагэтуль
Пра свабоду ў палоне
І пра палон у свабодзе?
Калі не, можаш назваць мяне дзіваком.
Толькі ты заставайся
Маім палонам,
Маёй свабодай
І паратункам маім!

*1996*



Францыі лепшыя кветкі
Ахвяравалі сабой,
Каб да цябе як данесці
Водар загадкавы свой.

Водар цудоўны, ласкавы,
Што ён табе прашаптаў
Тою чароўнаю мовай,
Моваю кветак і траў?

*26.09.2003*



Ты блізка ад мяне і — так далёка!
Трывогу адчуваю і тугу,
Чакаю — дачакацца не магу.
Ты блізка ад мяне  і — так далёка!

Няма званка. Маўчыш ты. Ні гу-гу!
А быў бы голас твой такой палёгкай!
Ты блізка ад мяне і — так далёка!
Трывогу адчуваю і тугу.

*Жнівень 2003*



Ужо каторую вясну
Мне сэрца вейкамі ты раніш.
Маўчаннем ты мяне тыраніш
Ужо каторую вясну.

О, на маё ты месца станеш!
Табе я ўсе даўгі вярну…
Ужо каторую вясну
Мне сэрца вейкамі ты раніш.



У вачах маіх — бліск малады.
Зноў і зноў заўважаеш яго.
Але ж ён — ад агменю твайго.
У вачах маіх — бліск малады.

Ува мне твой адбіўся агонь —
Я вясёлы, і што мне — гады!..
У вачах маіх — бліск малады.
Зноў і зноў заўважаеш яго.

*2003*



Пажартаваў я так няўдала!
Даруй, давёў цябе да слёз.
Усё ўспрымаеш ты ўсур’ёз.
Пажартаваў я так няўдала!

Калючкі тыя чорт паднёс:
Ад іх ты рану атрымала.
Пажартаваў я так няўдала!
Даруй, давёў цябе да слёз.

*28.01.2003*



Не папракай, не дакарай,
Што я ў каханні не клянуся.
Я ж да цябе душой хінуся.
Не папракай, не дакарай.

Паслухаць сэрца не лянуйся,
Яго сумненнем не карай.
Не папракай, не дакарай,
Што я ў каханні не клянуся.

*16.01.2003*



Не ўтойвай ад мяне нічога —
Ты смела праўду ўсю кажы.
У шчырасці — краса душы.
Не ўтойвай ад мяне нічога.

Маім даверам даражы.
Ці патрабую не замнога?
Не ўтойвай ад мяне нічога —
Ты смела праўду ўсю кажы.

*5.05.2003*



Кажы, калі душа баліць,
Адна ты бойся несці болі —
З цябе здыму я іх паволі,
Кажы, калі душа баліць.

Табе я зычу добрай долі,
Таму гатовы паўтарыць:
Кажы, калі душа баліць,
Адна ты бойся несці болі.

*5.05.2003*



І ў завею прысніцца мне,
Як расу сонца п’е,
Якляснымі суніцамі
Пахнуць вусны твае.
Бо сягоння не спіцца мне.
Бо мне спаць не даеш…
Бо ляснымі суніцамі
Пахнуць вусны твае ж…

*7.08.2004*



Кажаш ты ў захапленні:
— Рукі якія твае!..
— Ну якія ж?
— Поўныя ласкі, пяшчоты,
Гаючыя рукі:
Дакранаешся імі — і я…
Я ўзлятаю, здаецца,
Сэрца радасна б’ецца!…

«Ты — мая, і я — твой!» —
Адказаць я хацеў.
Ды не стаў паўтараць,
Што сказалі табе мае рукі.

«Іх забыць больш не дам я табе», —
Абяцаць быў гатоў.
Ды скажу як замову:
— Рук маіх не забудзь,
Ты не дай рукам іншым
Святкаваць перамогу
Над пяшчотаю, ласкай маёй.

*Лета 2001*



Аддаляешся, аддаляешся…
А былі з табою так часта
На адлегласці пацалунка
І скасоўвалі тую адлегласць
Рухам сэрцаў за міг светлазорны.
Аддаляешся на адлегласць
Маёй невымоўнай самоты.
Толькі думаю не пра пакуты свае —
Пра цябе мае думкі,
Ты шчаслівая помнішся мне;
Тое шчасце стваралі мы разам.
А цяпер
без мяне
ці ты ў шчасці?

# ДЗЕ ТЫ?



Зноў і зноў пад штодзённасці грузам
Я пытаннем жыву не пустым:
Што хвалюе цябе, мая муза?
Як то кажуць, чым дыхаеш ты?

Знай, што ўсёю істотай паэта,
Што б наступныя дні ні далі,
Не стамлюся пытацца я: дзе ты?
Дзе балююць? Ці там, дзе баліць?

*8.08.2004*

# НА МЯЖЫ

Зразумець, што ты — народ…

*Янка Сіпакоў*

Цікавасць у нас да надвор’я прагнозаў,
Хай вечар ці ранне.
А тут не пагроза ўраганаў якіх ці марозу,
Над нацыяй нашай паўстала пагроза
Фізічнага ўжо вымірання.
Да слыху, да зроку, да сэрца
ўсё весткі даходзяць благія:
Ў агні, на вадзе, на дарогах
мы гінем і гінем;
Мы гінем паўсюдна
ад градусаў горкіх і лішніх;
Так мала, здаецца, ратуе, а ўсё забірае
Ўсявышні.
І д’ябал не спіць — нас пачвара-хапун
выкрадае:
Не банда якая, а ўсё смельчакі прападаюць.
Менш радуюць пушчы, грыбы
і суніцаў паляны.
Чарнобыль злавесны над намі
і цень Бараўлянаў.
Паменшалі сем’і, звяліся славутыя роды.
Пра некалькіх дзетак
жанчыны і думаць баяцца:
Дзе трэція, пятыя, сёмыя роды?

Праблемы адно што ў вачах ды і ў душах
траяцца.
Смяротнасць пануе
над святам жыцця нараджэння.
Няўжо гэта краху паскоранае набліжэнне?!
Няўжо так трагічна, так глуха, так нема,
Як статак тарпанаў,
Мы сыдзем пад велічным небам?
Няўжо гэтак наканавана?!
Няўжо гэты ШЛЯХ,
што быў продкамі нам пратаптаны
Праз пекла насілля і войнаў,
Нашчадкамі-намі ужо і праспаны
Й забыты нібы дабравольна?!
Душою да ісціны прагну прыпасці,
мой Божа:
Што даў Ты Сусвету, навечна прапасці
не можа!
Не можа? А скіфы, сарматы, хазары
дзе сёння?!.

Мы смела на кухнях адно мітынгуем
базарна,
Але па натуры мы ёсць маўчуны
або соні!
І сцяг, і пра мову Закон мы праспалі,
Пра шмат беззаконняў
якой бальшынёй прамаўчалі!
Дык што на Зямлі мы і ў Космасе значым?

Што можам з’іначыць?
Як рыба аб лёд,
мы аб новыя б’емся задачы,
А выйсця з галечы не бачым.
Ці ж толькі з галечы?
Хутчэй — з псіхалогіі яўна авечай:
Дзе паша, дзе хлеў,
дзе пастух з яго пугай?..
І ходзім уніз галавою азначаным кругам.
Вярхі забаўляюцца, цешаць хаўрусам
з Расіяй.
Ах, збаў нас, Месія:
Сама ж у дрыгве і ў тумане Расія…
Не дай нам, Гасподзь, растварыцца
У межах чужых,
У бяздарна-фальшывых хаўрусах
размыцца —
Навекі між роўных краінаў і нацый
Магчымасць дай нам, беларусам,
застацца
І нам незалежным народам дай стацца,
Не згінуць, нібы тур апошні ці мамант.
Маліся за нас на нябёсах, пакутніца мама.
Ты, Маці Ісуса, Марыя, за нас заступіся,
за грэшных,
Грахі адвядзі і развей рой сумненняў
няўцешных.
Дай сілы найперш не памерці духоўна —
Хай збудзецца дзіўнае дзіва:

Адчуем нябёсаў саміх знак ахоўны,
Заплешча жыццё, закрасуе цудоўнаю нівай!
Свядомасць і памяць
Прачнуцца, памогуць уцяміць:
Народ — не за морам і не за гарамі,
Народ — гэта толькі мы самі,
З нас кожны,
І кожны, душою заможны,
Шчыруе за волю Радзімы,
Бо помніць: «Не хлебам адзіным…»
Жыцця сэнс убачым — і долю з’іначым.
І ўбачыць Сусвет, што і мы штосьці значым!

*10–12.02.2001*

# ШЛЯХ

Ах, Радзіма, куды ж ты ідзеш
Па бязбожным такім бездарожжы?
Шлях жа быў, ды згубіўся ён дзе?
І калі ты знайсці яго зможаш?

Ах, Радзіма, ужо й па дрыгве
Ты пайшла — час пакут немінучы?!
Толькі рэха з туману: — …Жыве!.. —
Адгукаецца ў сэрцы балюча.

*2001*

# ПРЫЗНАННЕ ІНВАЛІДА ВАЙНЫ

У краіне далёкай,
У чужой старане
Нас кідалі у пекла
На афганскай вайне.
Перад намі, як порах,
Там гарэла браня
І зямля пад нагамі
Там гарэла штодня.

У чужым дзікім краі,
На прасторах вайны,
Быццам знічкі, згаралі
Беларусі сыны.
Кроў сваю пралівалі
Найчасцей юнакі.
За чые інтарэсы?
За якія грахі?!

Ах, вярнуцца дадому
З той вайны не ў труне,
Ну, вядома, вядома,
Так пашэнціла мне!
Ах, вядома, калекі
Не бяруцца ў разлік.
Суцяшальныя лекі —
Валідол пад язык…

*2002*

# САТАНІСТЫ

А душагубаў Суд чакае
(Суд будзе, што там ні кажы),
Спасцігне кара іх такая,
Якую кожны заслужыў…

Аб вас, забойцаў абаронцы
І халуёў прадажных раць,
Люд у ўваскрошанай старонцы
Падэшвы будзе выціраць.

*2001*



Навошта чалавека чалавек
Ці куляю, ці словам забівае?
Няўжо ў забойцу літасць не жыве,
Ахвяра у вачах не ажывае?

Няўжо чужая рана не пячэ
І жах чужы не паліць і не студзіць?
Як ад суда людскога уцячэ,
Няўжо яго суд Божы не асудзіць?!

*7.08.2004*

# КЛІЧА ПАМЯЦЬ

У Курапатах
Ямаў-магіл багата
За шчыльным фронтам крыжоў.
А Курапаты —
Кропля ў моры вялікіх стратаў,
Якіх народ наш не абышоў.
Былі навалы, павалы, прагалы,
Якіх народ наш не заслужыў.
І вось крыжы, крыжы, крыжы…
Але ж не памяці правалы!..
Над Беларуссю крумкач кружыў.
Тут люты быў рэжым чужы.

*2002*

# ЦЕНІ ЗЛІВАЮЦЦА Ў ЦЕНЬ

Ад Еўропы адсталі мы.
Вось і ў новым стагоддзі
Цені Гітлера й Сталіна
Па зямлі нашай ходзяць,
Па святой і былiннай,
Той, хадзілі якою
Чарадзей, і Скарына,
І Астрожскага воі,
Багдановіч прыгожы,
Па зямлі, поўнай моцы,
Нарадзіцца дзе можа
Ньютан свой і свой Моцарт,
Па зямлі, дзе паўсталі
Задушэўныя песні,
Ходзіць цень Гітлер-Сталін —
Двуадзіны, злавесны.

*Верасень 2001*



Выміраеш, вёска, выміраеш…
Доўга ў пекле на зямлі была.
Можа, Бог узнагародзіць раем
За пакуты, што перажыла.

Воз цягнулі сейбіты, ратаі
Ў часе міру, войнаў і камун…
Састарэлі сем’і хлебадаяў,
Нараджаць дзяцей няма каму.

Будні ды і святы ўжо не тыя,
Некаму і песню заспяваць,
З абразоў біблійныя святыя
Ў смутку у пустэчу хат глядзяць.

Міфы чуем, быццам акрыяеш,
Вёска,
бы ўваскрэснеш хутка ты,
Што й квітнеючым ты станеш раем.
Зрэшты, ўсемагутны
Бог святы…

*8.08.2004*

# СПАДЗЯЮСЯ…

Недзе чытаў я выраз лацінскі:
　　　　«Contra spem spero…»
І без надзеі, і пад уціскам —
　　　　Ў лепшае веру!

— Што на Радзіме? — чую пытанне.
　　　　— Горш не бывае.
Цьмяную яву, як у тумане,
　　　　Перажываем.

Толькі насуперак здрадлівай скрусе
　　　　Выраз згадаю:
«Contra spem spero…» — І спадзяюся:
　　　　Край акрыяе!

*2001*

# МРОЯ ПРА КАЛІНОЎСКАГА

У цішыні прымроіўся ён мне:
Нібы з’явіўся ў роднай старане,
Бы прыскакаў на бронзавым кані,
Расой адмыўся на святой зямлі
Ад Мураўёва-катавай пятлі,
Яму заззялі сонца прамяні, —
Паўстаў, прыгожы, дужы, малады,
Бы й не было жахлівае бяды.
На Беларусь ён з Вільні прыскакаў,
Красу-Марыську гучна пагукаў.
І спрахлі каты, следу іх няма,
І шыбеніца спрахла, і турма —
«Мужыцкай праўды» не перажылі,
То і не ўсё так хістка на зямлі!..

*2005*



Вас так, нябёсы, люблю я!
Ва уяўленні малюю
Высокі загадкавы свет:
Аблокаў нізіны і ўзгоркі,
І сонца,
І зоры,
І зоркі,
Галактыку, цэлы Сусвет.
Малюю, малюю, малюю
Усё, што з маленства хвалюе,
І што узрушае мяне,
І што адрывае суцешна
Увысь ад зямлі гэтай грэшнай,
Дзе створаны рай сатане.

## АХ, КУРЧАТАЎ!..

Каб вы пачулі, свяціла Курчатаў, —
Перавярнуліся б, пэўна, ў труне:
Так агрызнуўся прыручаны атам,
Што й не прысніцца ў кашмарным у сне!

З ім забаўляліся галавацяпы,
Быццам з якімсьці ласкавым звярком, —
І радыяцыяй край мой працяты,
Множацца беды, хваробы кругом.

Хіба ж вы думалі, свеце Курчатаў,
Пра адваротны шчэ бок адкрыцця?!
Зрэшты, Чарнобыль — зусім не пачатак
Нашай трагедыі, толькі працяг…



Горкая праўда, краіны-суседкі:
Вы Беларусь абкружылі
Блокамі ўзведзеных атамных станцый.

І не ўзнікала ў вас, пэўна, пытання,
Дзе яшчэ лепшае месца,
Чым ля краіны такой памяркоўнай.

А паміж тым я павінен заўважыць:
Наш белы свет мала бачыў
Ядзерных гэткіх абдымкаў гарачых.

Зрэшты, вам дзякуй, краіны-суседкі,
Што ля мяжы з Беларуссю
Драму Чарнобыля не паўтарылі…

Нам бы з адною бядой расквітацца!
Бог адзін ведае толькі,
Колькім прайсці праз яе пакаленням.

З верaю ў цуд найвялікшы, свет белы,
Нам бы спыніць выміранне
Нацыі,
каб
не згубіцца ў сусвеце!

# ЧЫНОЎНІК

Сваёй зямлёй не даражыў,
Чарнобыльскай бяды й не нюхаў,
Ён толькі лоўка далажыў,
Вышэйшае аблашчыў вуха.

У пекле свой пакінуў край,
На гладкім коніку паехаў
У рай зямны… А з пекла ў рай
Не далятае нават рэха.

Пакуль не пакарае Бог,
І аблачынкі небяспечнай
Адсюль не пусцяць у той бок,
Дзе ён разлічвае на вечнасць.

Няхай не спадзяецца ён
Схавацца хоць бы й за бранёю —
Дастане здрадніка праклён
Людзей з чарнобыльскай бядою.

*1987–1988*

*P. S.*

Маскве ён не патрэбны больш…
Яго сумленне й тут не мучыць:
Яму чужы народны боль.
Як і ўсе здраднікі, жывучы.

*2005*

# У ХРАМЕ ХАРАСТВА І СМУТКУ

1

Яшчэ пяюць мае лясы,
Плывуць-шумяць жывыя воды,
Яшчэ ўваходжу ў храм красы,
Нерукатворны храм прыроды.
Чаму ж не лёгка — цяжка мне?
Чаму не ў радасці я — ў скрусе?
Зялёны колер пачарнеў
На карце мілай Беларусі.

2

Любая мая дзяўчынка,
Светлая мая расінка,
Чыстая мая слязінка,
Родная мая крывінка!
Донечка мая, дачушка,
Ластавачка-шчабятушка,
Што ж ніяк не засынаеш?
Казкі ты якой чакаеш?

3

Атрутны побач дождж імжыць
Над непрабуднаю зямліцай.
Пахаладзелая, дрыжыць
Між хмараў зорка Мілавіца.

4

Спі, мая дочанька:
На дварэ — ночанька,
Недзе і вецер прылёг…
Спі, мая птушачка,
Спі, шчабятушачка.
Хай беражэ цябе Бог!

*1990*



Волечка — мая зямлячка:
Юны ўзрост — дваццаць адзін…
Выбухнула зноў гарачка,
Рэзка ўпаў гемаглабін.

Ці ўратуюць Бараўляны
З дабрынёю нечужой?
Цяжкая надзеі рана:
Дзе той донар за мяжой?

Людзі грошы ахвяруюць,
Каб дапамагчы ў бядзе.
Лабаранты ўсё шчыруюць…
Паратунку — анідзе.

Як трываць, захоўваць веру?
Хто тут можа навучыць?
Аперацыя — хімера?
Еўрапейскі банк маўчыць!

Волечка — мая зямлячка —
З тварам бледным, нібы снег.
Я не бачыў яе плачу.
Як вярнуць ёй звонкі смех?

*5.08.2004*



Бор мой — вечны, як, можа, сам Бог.
Не такі ён магутны. Ды вечны.
Мне святы ён. Таму на яго
З ціхай просьбай сваёй чалавечай

Памаліцца гатовы: «Мой бор,
Даючы зёлак, ягад спакусу
І спакусу крамяных грыбоў,
Не карай — пашкадуй! — беларуса.

Цэзій, стронцый схавай жа глыбей,
Хай зямлёй сіла іх захлынецца.
Немагчыма пражыць без цябе,
І душа да цябе ўся хінецца!

Сонцам пешчаныя залатым,
Дзеці йдуць да цябе, векавечны.
Шмат людзей чэрствых стала, а ты
Да дзяцей нашых будзь чалавечны».



Калі чалавек, дарагі мне,
Заўчасна жыццё пакідае,
Тым больш як трагічна гіне —
Часцінка й мяне памірае,
Бо сэрца занадта балюча
Ўспрымае і страту, і гора,
Засмучаны я немінуча:
Мне звузілася прастора.



Жыццё і смерць — вялікія дзве сілы;
Яны заўсёды існуюць так блізка:
Адна вядзе ад самае калыскі
У белы свет, загадкавы і мілы,
Другая — непазбежна — да магілы.
Жыццё акрыліць, смерць паломіць крылы.
Пра гэта сёння кажа мне вятрыска.

# СЯБРОЎКА ЮНАЦТВА

* * *

«Ніна Антонаўна…» — кажаш. Ах, Ніна!
Ты гэта! Божа, не веру вушам:
Голас твой звонкі ў сэрца мне рынуў,
З радасці ажно знямела душа!

Гэты — знячэўку — званок так дарэчы!..
Як ты жывеш, раскажы, як жыла?
Гэта ж ад нашай апошняй сустрэчы
Цэлая вечнасць, здаецца, прайшла.

Як жа юнацтва сяброўкі адзінай
Голас пяшчотны настрой мне падняў!
З краем крынічным, лясным, салаўіным
Светла
цябе ўспамінаю штодня;

Бачу сяло і тваю ў садзе хату,
Юных, прыгожых і стрыманых нас,
Шахматамі ды гітарай занятых, —
Вобраз бясхмарнай вясны не пагас.

Знай, я сяброўству былому не здрадзіў.
Час разлучыў нас і ўсё памяняў.
З’ехалі ўсе вы з той хаты, што ў садзе,
Прозвішча новае лёс табе даў...

Будзе нялёгка суняць хваляванне
Нам абаім пры спатканні цяпер.

Доўгае мы парушаем маўчанне.
Дзе ж ты?
Скажы. Еду я да цябе!

*28–29.05.2003*

* * *

Не даеду, не дайду
Да цябе, бы ў цяжкім сне.
А ты трапіла ў бяду,
Не паскардзілася мне.

Адзываешся не так
Ты здалёк на мой званок:
Звонкі голас ціхі стаў,
Сэрца раніць незнарок.

Рэха чыстых слоў, прыходзь,
Паўтарайся мне і ў сне:
«Беражы цябе Гасподзь!»
І — «Маліся за мяне…»

* * *

1

Ты пацішэла, ды не разгубілася,
Хоць і дыягназ — суровы прысуд…
Ў сэрцы нясу твайго сэрца красу.
Ты пацішэла, ды не разгубілася.

Стойкі характар твой — рэдкасны цуд.
Верыла ў лепшае, мужна лячылася.
Ты пацішэла, ды не разгубілася,
Хоць і дыягназ — суровы прысуд…

2

Згадваю часта я спевы твае:
«Белой акации гроздья душистые…»
Ах ты пявуння мая галасістая,
Згадваю часта я спевы твае!

Блізкая, мілая, светлая, чыстая!
Грозны Чарнобыль цябе моцна б’е.
Згадваю часта я спевы твае:
«Белой акации гроздья душистые…»

3

Мы паспяваем яшчэ той раманс:
«Целую ночь соловей нам насвистывал…»
Вып’ем з табою віна залацістага.
Мы паспяваем яшчэ той раманс.

Росы заззяюць пад поўняй срабрыстыя,
І не засцеле прастору туман.
Мы паспяваем яшчэ той раманс:
«Целую ночь соловей нам насвистывал…»

# Мая трывога

1

Я цябе дажджлівым раннем
З Тройцаю павіншаваў,
За тваё з бядой змаганне
Гераічнаю назваў.

Ты з прыглушаным адчаем
Адказала, што злягла,
Пра страшэнны боль начамі
Колькі словаў дадала.

Цяжкае тваё дыханне
Чуйны тэлефон данёс.
На папраўку спадзявання
Не дае суровы лёс.

2

Чарнобыль злы наносіць
Свой сакрушальны ўдар.
У Бога сэрца просіць:
Дай рады, Валадар!

Нічога больш, мой Божа,
Не могуць урачы.
А Ты, Ўсявышні, можаш
Усё перамагчы.

Няўжо дасі дачасна
У Гомелі ўначы
Таму агню пагаснуць,
Што трэба зберагчы!

*12.06.2009*

## Пацяжэў сардэчны смутак

*Светлай памяці Ніны Амяльчук*

Ў час маланак, грому, ліўня
Часта ныла пачуццё:
Ведаў, што пад небам жніўня
Дажынаецца жыццё.
Пацяжэў сардэчны смутак:
Ой, не выйшла ты з бяды!
Дагарала многа сутак
І без ежы, й без вады —

Пазваніла раніцою
У слязах дачка твая…
Неба чыстаю слязою
Плача, і гарую я.

*18.08.2009*



Шляхоў скразных, вялікіх скрыжаванне,
Нібы адвечны страшны крыж, ляжыць,
І ты распнутая на тым крыжы,
О, Беларусь, маё жыццё й каханне!

Жывая ты, хоць на крыжы як жыць!
Крывавяць раны, сціснута дыханне,
Вакол шыпенне чуеш і цкаванне,
Арол-крумкач працягвае кружыць…

О, Бацькаўшчына, боль свой перасіль,
Паўстань сама, ніхто з крыжа не здыме,
Зірні на свет вачыма маладымі,

Вядзі свой шлях, падмогі не прасі
І даражы сваім свяшчэнным імем —
Сябе распнуць ты болей не дасі!

*1991*



І жаль не раз мяне бярэ, і жах:
Няўжо, народ, падняцца ты не ў стане!
Як прыніжаць сябе не перастанеш,
Цябе не перастануць зневажаць.

Устань з каленяў — волю набліжай.
Супроць сваіх прадаўцаў не паўстанеш —
Па сутнасці, арганікаю станеш,
Якая ім памножыць ураджай…

Як самагубства — самазабыццё,
Тваё маўчанне — гэта патуранне.
Эксперымент народзіць «адкрыццё»:

Паставяць у вярхах сваіх пытанне —
«Ці трэба табе мова і жыццё?»
І «высветляць»: даволі існавання.

*Лістапад 1992*



Ты — пачуццё нязводнае, мой сорам.
Ты — праўды сябра, значыць, фальшу вораг.
Ты — плод сумлення ці ягоны корань?
Не ў стане жыць я без твайго дакору.

Ты — мая ўлада, я — твая пакора,
Мая ахова ты, мая апора,
Мой чуйны камертон у шчасці й горы,
Ты — мой агмень і на агмені порах.

Гару за крок свой невысакародны,
За слова сваё рэзкае падчас,
За позірк неапраўдана халодны,

Паспешны суд, марудлівы адказ,
За здрады блізкіх і заганы родных
І за дзяржаву ўладную не раз.

*1994*

# ПЕШКА

«Кавы нет, есть кофе только», —
Мне адказвае гандлярка…
Скуль яе, не ўцямлю толкам,
Пешку ў кофце дужа яркай,
І якім прыгнала ветрам
Да зямлі маёй харошай?
З мэтай, для яе найсветлай, —
Зарабіць паболей грошай!

Ёсць яшчэ адно пытанне,
Людзі справа, людзі злева:
Што, як пешка раптам стане
Ў нашым краі каралевай?!
Край трывушчы, памяркоўны,
Край, даверлівасці поўны,
Той, што глупства процьму чыніць,
Пешцы дзверы ўсе адчыніць.

*9, 24–25.09.2001*

# ДЗЕ ТЫ?

— Дзе не распяты народ, не забіты,
Не без’языкі, не анямелы,
Не апалячаны, не абруселы?
Дзе ты, з’яднаны бядой, самавіты,
Ты, не прададзены,
                                        д’яблам не ўзяты
Ні за рублі, ні за еўра й даляры?
Дзе ты,
          Народ маёй чыстае мары?
Дзе ты,
          маё найсвяцейшае свята?

— Там, дзе працуюць,
Там, дзе ствараюць,
Дзе дух мацуюць,
Зла не трываюць.

# МІНІЯЦЮРЫ

## Метамарфоза

Пляц Незалежнасці
Стаў плошчай Леніна.
Жывую назву ўжо
Змяніла мёртвая.

## Без запавету

Чыннасць нашую скоўвае вета…
У бязбожнасці ўсе мы ў гасцях…
Там бяда, дзе няма запавету:
Не хадзі і не едзь па касцях!

## Вытокі зла

А мора зла
Найболей жывяць рэкі —
Тэрор дзяржаўны
І дзяржаўны рэкет.

## Журналістка

Дзясяткі дужа вострых тэм
Ў яе артыкулах жывых,
Ў яе, каго знайшлі ў крыві
З дзясяткам ранаў нажавых.

# ПАРАЛЕЛІ

Сёй-той называў бацькам Сталіна,
Крыўдзячы безліч бацькоў,
Асабліва тых,
На кім было кляймо:
«ВОРАГ НАРОДА».

«Здох, нарэшце, сабака!» —
Так сёй-той гаварыў пра Сталіна,
Крыўдзячы процьму сабак,
Асабліва — нязлых.

*25.06.2007*



Стаў беспрацоўным…
                                        Сумна так,
Калі ў падземным пераходзе
Мяне
        калека ці жабрак
Пагаслым позіркам праводзіць.

І не лягчэй, як прабягу
Ля барда, тоячы ўзрушэнне, —
Даць міласціну не магу:
Скразняк гуляе па кішэнях!

Паэт я, маю божы дар —
Дасведчаныя скажуць людзі,
Бывае часам ганарар
Мізэрны, сыт з яго не будзеш!

Душой багаты, а — жабрак,
Даўно тут парадоксы ў норме.
Стаў беспрацоўным,
                                    лёгка так
На мне дзяржава эканоміць!

Адпачывае плоць. Адно
Душою не адпачываю:
Штодня людское бачу дно,
Сябе на дне я адчуваю.

*1996*

# АДЧАЙНАЯ КАЛЫХАНКА

Месяц спіць за аблачынкай.
Засынай ты, мой хлапчынка.
Я табе, сынок, спяю
Песню сумную сваю.
Люлі-люлі, баю-бай,
Немаўлятка, засынай.

Спі — і вырасцеш, мілéнькі.
Кім ты станеш, мой маленькі?
Не падумай — песняром,
Лепей, сынку, гандляром.
Кнігі цяжка выдаваць,
Лепей лоўка гандляваць.

Ходкім зоймешся таварам —
Вечна будзеш ты з наварам.
Будзеш як у масле сыр…
Будзе высь твая і шыр!
З музаю, мой залаты,
Будзеш век галодны ты!

Злодзеем не станеш, можа,
Красці вельмі непрыгожа —
Скончыць можна і турмой!
А навучаць, мілы мой, —
Не крадзі тады казу,
А цішком крадзі казну.

За казу ты купіш кукіш.
А казною ўсіх падкупіш,
Сцены ты праб’еш казной…

Што я, родны! Што са мной!..

Люлі-люлі, не ўспрымай,
Мой сыночак! Засынай.

*1991*

# НА МЯЖЫ ЛЮБОВІ Й ЖАЛЮ

Вее вецер чужы
У куток нелюдзімы.
Плача птушка душы:
Не пазнаць мне радзімы.

Дзе стаяла жытло, —
Кукуруза, мой Божа!
А крынічкі святло,
Што ў душу мне цякло, —
Хто вярнуць яго зможа?

Перавернута спрэс
Поле, луг перарыты.
Так адкрыта «прагрэс»
Робіць з храма карыта?

Хто ўзараў сенажаць?
Дзе ты, бежанец бусел?
Тут ні сеяць, ні жаць —
Пастаяць толькі ў скрусе.

*1988–1990*

# НАСУПЕРАК

Хай варона каркае
І сабака гаўкае,
І шыпіць змяя,
Песню я выношваю,
Бо ў душы праношу я
Спевы салаўя.



*Вользе Крыпец*

Так люблю я высокія светлыя залі
І хачу, каб гучалі ў іх цудныя песні
І каб гожыя людзі артыстам, музыкам,
Творцам свежыя кветкі дарылі!

Ах, яшчэ я хачу паміж кветак раскошных
Нечакана ў чыёйсьці руцэ далікатнай
Васількоў-сінязорак угледзець пяшчоту —
І адчуць беларускага поля дыханне!

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА

Табе ў тунелі сонца мроіцца
Ды працвітанне Беларусі.
А маё сэрца непакоіцца:
Прасіць ты міласціну мусіш!

Твой капялюш, мая ты рыбачка,
Рублі чакае на бетоне.
Твая няўрымслівая скрыпачка
І журыцца, і ціха стогне.

Не грэе ўражанне тужлівае,
Што і цяжэй бывае дзесьці,
Стараешся, доўгацярплівая,
Канцы з канцамі неяк звесці.

Чужому — частыя авацыі,
Твае пыляцца скарбы ў сховах,
Перажывае дэвальвацыю
Тваё пакрыўджанае слова.

Што дапаможа выжыць, выстаяць?
Пакуль цябе ратуюць слаба
Імя тваё, святое, чыстае,
І добрая ў стагоддзях слава.



Паганіні скрыпка плача
Морам гукаў струн жывых.
Я за плачам скрыпкі бачу
Мора скарбаў незямных…

Майстар шоў, каму на ўцеху
На экране зноўку ты?
У тваім базарным смеху
Бачу прорву пустаты.

# У БЕЛАРУСКІМ ПАНТЭОНЕ

## Праніклівы позірк

*Светлай памяці Жэні Янішчыц*

1

Мы спазніліся сустрэцца
На адну ўсяго вясну.
Лёс крылаты абмінуў.
Мы спазніліся сустрэцца.

Іскра чыстага агню
Не пасмела разгарэцца:
Мы спазніліся сустрэцца
На адну ўсяго вясну.

2

З фота, юная, глядзіш…
Зняў фатограф невядомы
Ў садзе, блізка каля дому.
З фота, юная, глядзіш…

Ні надлому, ані стомы:
Даль наперадзе і выш.
З фота, юная, глядзіш…
Зняў фатограф невядомы.

3

Тваe вочы не маўчаць,
Бо глядзяць яны ў душу.
І ў завею, і ў імжу
Тваe вочы не маўчаць.

Праз гады, праз боль і шум
Быць ім побач, хваляваць…
Тваe вочы не маўчаць,
Бо глядзяць яны ў душу.

* * *

*Светлай памяці Міхася Рудкоўскага*

Ці чула ты, Нача-Начанка,
Як ноччу купальскаю душнай
У месце высокім прыбужскім
Пясняр задыхнуўся ідушчы?

Ідушчы і чуйны, ранімы,
У свет, у Сусвет закаханы,
А болей за ўсё — у радзімы
Куток гэты непараўнаны.

Напэўна ж, пачула, рачулка,
Як ён праз завулак Зарэчны
Вярнуўся ў апеты ім Востраў
Да родных прастораў навечна.

*1991*

* * *

*Светлай памяці Тамары Чабан*

Званы адзванілі у Ракаўскім храме.
Адплакалі свечкі на ўскрайку труны.
А скруха матулі і смутак па маме
Не пройдуць, ніколі не пройдуць яны.

Паэма прачулых прамоў прагучала,
Аддадзена шчыра даніна журбе.
А скруха каханаму ў сэрца запала,
Ў ранімае сэрца запала глыбей.

…Калі веснай ружаю плоць памірае,
Жыве ціхі подзвіг няўрымснай душы,
Каб зоркі над родным знявечаным краем
Чыноўны не змог цемрашал патушыць.

Званы адзванілі у Ракаўскім храме.
Адплакалі свечкі гарачай слязой.
Святое імя узыходзіць як памяць
Над скрухай зямной і зямною красой.

*Сакавік 1992*

* * *

Васіль Гадулька, мой зямляк і цёзка,
Лёс і радкі засведчылі твае:
Паэту яркі талент
                                        дорыць вёска,
А супакою — сэрца не дае,

Якому не чужы ўвесь свет вялізны,
Павек баліць паэту белы свет…
А быў чужы табе шумок сталічны
Ў начным багемным ззянні цыгарэт.

Васіль Гадулька, гадаваў ты творы
Без жаднае хлусні, без мітусні,
Самотны, да таго ж і сэрцам хворы.
Так рана ты сышоў. Але не знік.

Вярнуўся кнігай, светлы і відушчы.
Няхай парой маркоціцца твой верш,
Ды ён, найперш гаючы, лечыць душы —
У слове неўміручым ты жывеш.

# Быў адзінокі

*Светлай памяці Васіля Сахарчука*

Ты на Зямлі шматлюднай
адзінокі
Быў, як калісьці юны Палуян,
І доля выйшла горкая твая,
Хоць абяцаўся стацца лёс высокім.

Ты быў самотны, хоць твая самотнасць
Спрыяла тонкай творчасці тваёй:
Таленавіты, самавіты ў ёй
Ты быў, а іншае хіба істотна?

У свет спакою рушыў ты рашуча,
Вакол збудзіўшы жалю пачуццё.
Ў зеніце веку супыніць жыццё —
Навошта крок той стаўся немінучы!

Няхай бы жыў ды мілаваў жанчыну,
Усцешна гадаваў за вершам верш.
Арыгінальным, ой, не назавеш
Прадуманы апошні твой учынак!

*17.07.2003*

# У вянок

*Светлай памяці Анатоля Сыса*

Нечаканая вернікаў вестка знаходзіць,
І яны праз дажджы спавядацца прыходзяць
Да партрэта паэта, на вешчы агмень:
Сыс па вечнасць сыходзіць у травеньскі дзень.
Беларусь, перад ім сёння шчыра пакайся:
У тваёй невідушчасці ён спатыкаўся,
Да крыві разбіваўся на беразе кроз.
На сабе ён магутныя крылы пранёс.
Крылам беркута з імі, о, не параўнацца!
Крылам волата цяжка не ўзняцца і ўзняцца:
Іх трывожыў, трымаў невымоўны палон.
Анічога не маючы, меў усё ён:
Жыў гарачай любоўю, святой, трыадзінай —
Мовай прашчураў, воляю, воляй Радзімы,
Ён, яе, непазбежна свабоднае, сын,
Век залежны адно ад высокай красы.
Давяраць не хацеў талісманам ахоўным:
Ён, далёкі-далёкі ад смерці духоўнай,
Краю боль сунімаў — не пякучы свой боль...
У кагорту Максіма пайшоў Анатоль.

*9.05.2005*

## Да Анатоля Сыса

*(Пасля 9-га траўня 2005 г.)*

Час ідзе, няма патолі.
Дзе ты, непаўторны Толік?
Што ж пытаю?.. Ты — на небе.
Больш не трэба дбаць аб хлебе,
Днях турботных і свавольных —
Стаў адразу чыста вольны
Ад віна, правінаў, болю…
Вось яна, людская доля:
Хочаш волі — памірай,
Мо заслужыш там і рай.
Тут жа — многа сцежак слізкіх,
А і пекла надта ж блізка!..

Ды сваім абраў ты лёсам
Паэтычныя нябёсы.

*Чэрвень 2005*

* * *

1

Яшчэ не раз я узгадаю
Дзень пахавання Пісьмянкова:
Алег Антонавіч рыдае,
Плач не дае прамовіць слова.

З былым студэнтам развітанне
Прафесару — журба і гора.
Заўчасна змоўк суладны талент,
Навек пакінуў стольны горад.

Дзень красавіцкі — манатонны,
Такі дажджлівы і халодны!
Рыдае Лойка, сын Антонаў,
Праніклівы, сардэчны, родны…

2

Ад старажытнасці глыбокай
Да нашых чорна-белых дзён
Жыла Айчына ў ім, не толькі
Век жыў у Бацькаўшчыне ён.

Шляхамі рухаўся сваімі,
А шчыра-мудры меў язык
І жыў пачуццямі усімі
Ён — ад усмешкі да слязы.

## Гаючая пакутніца

*Светлай памяці Ніны Мацяш*

Ты стала святою нас, грэшнікаў, дзеля,
Планеце сяброў ты азонам была,
Надзеяй, падзеяй, у буднях нядзеляй,
Была цеплынёю, палётам святла.

Твой голас і словы твае далятาлі —
Жывілі й няквoлых, і духам слабых,
Якія — з любоўю к табе — не ўяўлялі
Усіх невымерных пакутаў тваіх.

Стамілася, а на спачын нечакана
Пайшла перад золкім пахмурыстым днём,
Забрала ўсе мукі, сардэчныя раны,
Зямлю адарыўшы гаючым святлом.

*9.01. 2009*

# ПАСЛАННІ

*Журботны цыкл*

## Прарочы сон

Гразкае, слізкае поле.
За гэтым нявеглым гародам —
Усе з найбліжэйшага роду.
Мусова і мне туды…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Дотык рукі, мамін голас:
— Ступай у мае сляды.

Ніна Мацяш

Выйшла з гразкага поля.
Ты ў іншасвеце ў цішы.
Вызвалена ад боляў
Цела —
палёгка душы.

З горкіх расчараванняў
Выйшла на волю душа.
Самых гарачых пытанняў
Болей не вырашаць.

Як жа адвыкнуць ад болю
І з без турбот векаваць?
Там па зямной цяжкай долі
Вечна душы сумаваць?

*13.03.2009*

* * *

Разумею: спакой і маўчанне
Завалодалі лёсам тваім.
На зямныя мае хваляванні
Адгукнуцца не можаш нічым.
Скрушна! Пуста!..
Ах, столькі спатканняў
Пражылі сярод летаў і зім!
Хоць журлівай жураўкай,
хоць каняй
Ты з’явіся у сненні маім.

*4.03.2009*

* * *

Снег бела-блакітны,
дарунак нябёсны,
На лапах ялін —
не адвесці мне воч!
Я вочы адвёў —
да журбы невыноснай:
Няўжо ў цябе чорная-чорная ноч?

Услухаўся ў цішу —
твой голас здалёку
Ласкавых слоў рэха
да сэрца данёс.

Твой голас анёльскі
прынёс мне палёгку:
Пяшчотна праліўся
з прасветлых нябёс.

*20.02.2009*

* * *

Ніна, мілая Ніна!
Дух нейкі быў тут злы:
З добрай тваёй сябрыны
Сварацца два арлы.

Смешна сказаць: як у пеўняў,
Натапырыліся хвасты.
Слаўных арлоў, напэўна,
Хутка змірыла б ты.

Чысты адказ на пытанне
Мне без цябе й не прысніць:
Прыкрую ў нашым стане
Як непрыязнасць спыніць?

*12–13.03.2009*

* * *

> Ты мысль, ты сон.
> То, что лежит в могиле, разве ты?
>
> *Іван Бунін*

Не, ты не сон, ды і не прах —
Выява пачуцця, якое
Не знае скону, трапяткое,
Вясны дыханне на мой шлях,

Суладдзя і пяшчоты цвет,
Які не знае завядання.
І ты не кропля ў акіяне,
Ты — ў кроплі акіянскі свет.

*16.04.2009*

* * *

Вясна ў разгары, ды — халодная.
Адкуль жа цёплай быць вясне,
Як цеплыні тваёй прыроднае
Ў яе не стала і ў мяне!

* * *

Так нявесту выглядваў шторання
І гукаў яе песняю шпак!
Не збылося у птаха спатканне…

Мне птушыная драма кахання
Пра людскую нагадвае так!

* * *

Да цябе зноў звяртаюся, Ніна,
Я вясёлы цяпер без віна:
У мяне з усіх добрых навінаў
Асаблівая навіна —
Доня долю гатова з’іначыць.
Хутка замуж выходзіць яна.
Не кажу табе, што гэта значыць,
Адзіноту спазнаўшай спаўна.

*Красавік 2009*

* * *

Закукуе зязюля сваё векавое —
Мне журбы не суняць, не стрымаць.
Пачуццё не дае супакою:
Свет вялік, а цябе ў ім няма!

Як змірыцца, як звыкнуцца з болем,
Як не быць мне ў глыбокай журбе:
Не налічыць зязюля ўжо болей
Ні гадочкаў, ні песняў табе!

Сумны голас у нашае пташкі
Не звінеў так ніколі раней,

Не ўспрымаўся так жаласна-цяжка,
Як у спозненай гэтай вясне.

*9.05.2009*

* * *

У вершах мужных і ласкавых
Яшчэ не ўся, не ўся ёсць ты —
Гаворадь пра цябе яскрава
Твае няўтомныя лісты.

Душа багатая стварала
Сардэчных повязяў сусвет,
Сама сабою дапаўняла,
Нязмушаны аўтапартрэт.

Тваё жывое ліставанне —
Старонкі шчырага жыцця;
Лісты — пярэдадні спатканняў
Ды і крылаты іх працяг.

Ад іх гаючым вее летам,
Суровай дыхае зімой…
Перабіраю самацветы —
Зноў сустракаюся з табой.

*29–30.05.2009*

* * *

«У прыгаршчах ветру» —
люстэрку расколатым
З’явілася ты.
Гаворыш пра лёсу кульгавае кола ты
З расстайнай вярсты.

«Як жыць…» —
аб самоце гаворыш і роспачы. —
«На… балі… адна…»
І сон — аж мурашкі па скуры! —
прарочы свой
Расказваеш нам.

І пільна пры тым
у свет божы ўглядаешся,
Да сутнасці йдзеш,
**За годнасць, моц духу людскога**
**змагаешся —**
За душы людзей.

І над дзьмухаўцом, матылёчкам
у роздуме
Схіляешся ты,
Пры ўсім пастаянстве
пранікліва-розная.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Ты — крык з нематы.**

*4.08.2009*

# ОДА МОРУ

О, Чорнае мора, дабрыдзень!
Прыбоем ты мне адказала…
Так доўга цябе я не бачыў!
Напэўна, змяніўся я, мора:
Віхуры прайшліся па лёсе —
І горкія страты я зведаў,
Дый леты сваё забіраюць…
А ты ўсё, здаецца, такое ж.
Блакітна-зялёныя хвалі
Срабрыста на сонцы ўскіпаюць —
Бягуць неабсяжным прасторам.
Ты лашчыш мае ўсе пачуцці
Ўрачыстай сваёй прыгажосцю
І неўтаймаванай стыхіяй.
З табой тут люблю сустракацца,
Ў Пясчаным, —
мне так даспадобы
Паселішча гэтага назва,
А болей — кутка першароднасць:
Гара дужа стромкая,
поруч,
На пляжы, — пясок залацісты.
Тут, мора, ідзеш ты да сонца,
На ўсход коціш хваляў алмазы,
Страчаешся з рэчкай Альмою,
Людзей сустракаеш няўтомна
І кожнага цешыш па-свойму.

З табою шчаслівыя дзеці.
Найменшых ты хвалямі ліжаш
На роўным вільготным пясочку —
Так котка малых кацянятак
З няўцямнай пяшчотаю песціць —
Ці хваляй гуллівай гартуеш.
Для большых дзяцей ты — забава:
Хто вучыцца плаваць заўзята,
Хто весела мячык пускае
І спрытна яго даганяе,
Хто хвалі твае разбівае —
І чыстыя пырскі ўзлятаюць.
Бясклопатны светлы занятак!
Мяшчанам, дзялкам недалёкім
(Яны адусюль прыязджаюць)
Адно апетыт павышаеш
На стравы ды на садавіну,
Напоі, што градусы маюць.
Яшчэ дадаеш ім ахвоты
У дурня гуляць падкіднога
І лясы тачыць апантана,
А многім — і фліртам займацца.
Вагу без праблем памагаеш
Каму наганяць, каму скінуць,
Ну, словам, салёнае мора,
Нясеш ты ўсялякую службу…

А мне ты, о, мора, — стыхія,
Якая душу напаўняе.

Душы трэба бачыць і слухаць
Цябе, мора, й дыхаць табою.
Пад сонцам, пад поўняю белай,
Пад хмараў сівых чарадою
І зроку, і слыху,
І сэрцу майму
ты даеш асалоду…
Зямны чарадзей Айвазоўскі
Мяне чараваў ці не змалку
Адкрыццямі мора як свету,
Але хіба мог ён данесці
Да нас на палотнах дзівосных
Усе твае, мора, настроі
І колераў цудных багацце?!
Няма мастака і не будзе,
Якому па сіле такое.
Злічыць немагчыма адценняў
Сінечы, блакіту, і срэбра,
І золата, і малахіту,
Агату і нават рубіну
У водаў тваіх пералівах.
Ці ёсць кампазітар на свеце,
Які перадаў бы праўдзіва
Бунтоўны твой дух,
дух свабоды?
А хіба не ён мяне вабіць,
О, Чорнае мора, найболей!
Як сын Беларусі я чую
Задумлівы пошум і грозны

Пушчанскі і Нарачы голас.
Ды час надыходзіць — і мала
Мне родных стыхіяў адметных,
І хуткі цягнік з Беларусі
Нясе мяне ў вырай кароткі.
Паўмесяца дыхаю морам.
Паўмесяца слухаю мора.
Пры сонцы, пры поўні, пры зорках,
У цішы і ў шалах вятрыскаў.
Люблю цябе, мора, заўсёды,
Але асаблівай любоўю —
Калі ты у шторме, бунтуеш.
Тады голас твой валадарыць,
Тады какафоніі гукі,
Якімі багата эстрада
Ў раёнах пансіянатаў,
Ты чысценька ўсе заглушаеш,
Тады безраздзельна пануе
Твая цуда-музыка, мора.
Твае срэбназвонныя хвалі,
О мора, іграюць бунтоўна
Сімфоніі чыста марскія.
Мажорныя вечнасці гукі
Ў душы абуджаюць святое,
Якое жыве самастойна
Па-над мітуснёю і тлумам.
У памяць міжволі прыходзіць
Міцкевіча вобраз духоўны
(Паэт, польскамоўны наш геній,

Тут быў, праязджаў ён па Крыме,
Каб след неўміручы пакінуць
У творах, у «Крымскіх санетах»).
О, меў ёе гарачае сэрца,
Дзе вечна жылі тры святыні —
Айчына, Свабода, Каханне.
Выгнаннік, вядомая справа, —
Цары не любілі свабодных.
Ах, як даражыў ён Айчынай!
Вось — «Litwo! Ojczyzno moja…» —
Найпершыя самыя словы
Шляхетнай гісторыі цуднай,
Што мае назоў «Пан Тадэвуш».
Народжаны быў ён ліцвінам,
Застаўся ліцвінам да скону.
Бо ён пад Наваградкам нашым
На свет гэты белы з’явіўся,
Душой увабраў нашы песні.
Не дзіва, што ў сэрцы паэта
Знайшоўся куток запаведны
І мове жывой беларускай,
Якую ці мала хто сёння
Змяніў на чужую, як шмотку…
Ацэньваў наш геній бліскуча
Багацце яе, мілагучнасць,
Яе каранёў трываласць.
Няхай бы яго стала лёсам
Абранніца сэрца Марыля!
Ах, мора, ты, пэўна, не знаеш

Адамавай драмы кахання!
А можа, цяпер паэт разам
З каханай на небе бязмежным?..

Рытмічныя гукі прыбою
Тут будуць нагадваць мне часта
Славутага Пушкіна словы,
Яго развітання з табою.
Паўночна-усходні сусед наш
Блукаў недалёка адгэтуль —
У ціхім, у дзікім Гурзуфе…

Пазней ў веснавой волкай Ялце
Наш цвет, наш Максім Багдановіч
Развітваўся, ды не з табою —
Развітваўся, мора, з жыццём ён.
Быў хворы паэт на сухоты,
Таму і згараў, быццам свечка.
Згарэў, ды застаўся навекі
Ён нацыянальным прычасцем,
Самой чысцінёй і сумленнем.
Шчымлівую горкую праўду
Казаў юны геній у вочы:
«Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма».

Сын Бацьку ніяк не абразіў —
Ён выказаў боль і спагаду,
Яшчэ — між радкоў —
Спадзяванне...
Вакол цябе, мора, шмат розных
Народаў жыве самавітых;
На беразе і ў сваіх водах
Ты часта іх чуеш, і зрэдку
Тут з’явіцца хто з беларусаў,
Нямы ці бязмоўны, як рыба…
Як горка, што й цэлы народ мой
Не можа спыніць выміранне!
А так бы хацелася верыць,
Што ён, мой народ старажытны,
Становіцца ўжо неўміручым!

*1996*

# НА СЯЎБУ!



1

Нам Багдановіча даў Бог
У пераломную часіну —
Краіну ўзнагародзіў Сынам.
Нам Багдановіча даў Бог.

Максім, як сонейка — расліна,
Здалёк адчуць Радзіму змог.
Нам Багдановіча даў Бог
У пераломную часіну.

2

Нам Багдановіча Бог даў,
Каб прыгажэлі мы душою,
Раслі каб з мовай не чужою.
Нам Багдановіча Бог даў,

Каб размінуліся з паршою,
Каб не сагнула ў крук бяда…
Нам Багдановіча Бог даў,
Каб прыгажэлі мы душою.

3

Так рана Бог яго забраў,
Каб мы душу гаілі ранай,
Каб адчувалі, што забрана.
Так рана Бог яго забраў!

Паэт «Пагоню» апантана
І «Страцім-лебедзя» ствараў…
Так рана Бог яго забраў,
Каб мы душу лячылі ранай!



Патрыёта Гілевіча сэрца
Гулка б’ецца — і ў свеце святлей.
Колькі зведала сцюжаў, завей
Патрыёта Гілевіча сэрца!

Б’юць маланкі ў паэта, але
За краіну змагар не здаецца.
Патрыёта Гілевіча сэрца
Гулка б’ецца — і ў свеце святлей.

*2006*



*Андрэю Федарэнку*

Як наросхрыст белая кашуля —
І душа, няскораная злом.
Як пад сонцам ніва,
раскашуе
Проза пад няўрымслівым імём.

Беларус, відочна-рызыкоўны,
Нібы ў шахматнай гульні, ў жыцці…
А жыццё пражыць, мой друг цудоўны,
Так і ёсць, — не поле перайсці!

Перад лёсам Бацькаўшчыны
строга
За свой кожны крок адказны ты.
Шчодры талент, благаслаўлёны Богам,
Паяднаны з подзвігам святым.

*2002–2004*



*Алене Атрашкевіч*

Пчолка старанна збірае нектар.
Любы мне пчолкі нястомнай занятак!
Творчае працы ўзгадаўся пачатак…
Пчолка старанна збірае нектар.

Музыкі мёд — сэрцу мілае свята.
Думаю пра кампазітарскі дар…
Пчолка старанна збірае нектар.
Любы мне пчолкі нястомнай занятак.

*Вясна–лета 2003*

# МУЗЫКА

1

Ад дэпрэсіі, ад стрэсу
Не спяшайцеся ў аптэку —
Неаптэчныя ёсць лекі
Ад дэпрэсіі, ад стрэсу.

Для душы, для чалавека
Песні ёсць, санаты, месы…
Ад дэпрэсіі, ад стрэсу
Не спяшайцеся ў аптэку.

2

Моцарт, Чайкоўскі, Агінскі,
Музыкі слыннай магнаты.
Час абганяюць крылаты
Моцарт, Чайкоўскі, Агінскі.

Ў Мінску ты, Воршы ці Пінску,
Прыйдуць — і ты ўжо багаты —
Моцарт, Чайкоўскі, Агінскі,
Музыкі слыннай магнаты.

*2005*

# ЛЯ БЕРАСЦЕЙСКАГА ВОГНІШЧА

*Марыі Новік,*
*Святлане Варонік*

Ідзе ў alma mater служэнне ад раніцы.
Ахвярныя,
духам, аднак, неслабыя,
Шчыруеце, слова святога абранніцы,
Палонніцы слова — Святлана, Марыя.

З гаючае чашы не ўсе прычашчаюцца —
Адно не забітыя душы, жывыя…
О, як немінуча яны ачышчаюцца,
Вы — першыя сведкі, Святлана, Марыя!

Імёны сваёй мілагучнасцю радуюць,
Сваім меладызмам: Марыя, Святлана.
На самыя сэрцайкі націскі падаюць,
А з імі — і болі чужыя, і раны.

І ў храме не бачу цяпер лёсу шчаснага.
Ды ў горкіх нягодах мы век не звякуем.
Збярэмся вакол непагаснага, яснага…
Дасць Бог, пасвяткуем яшчэ.
Пасвяткуем!..

*2009*



*В. Я. Зарэцкай*

Люблю на вогнішча глядзець,
Душы яно дае гаенне.
У ёй ці рана, ці ўзрушэнне —
Люблю на вогнішча глядзець.
А радасць дорыць ды натхненне
Агонь, што ў сэрцах у людзей.
Люблю на вогнішча глядзець —
Душы яно дае гаенне.

*28.03.2004*

# АКРАВЕРШЫ

## Самавіты

Няўжо ты, мой народзе самавіты,
Асуджаны ажно на выміранне?!
Расці, трывушчы і таленавіты,
О, радуй свет жыццём, не існаваннем,
Дом свой будуй, прасветлы, быццам ранне.

## Скарб

Маліцца за родную мову нам трэба —
О, так людзі любяць святыні свае!
Вядома, што мова — Зямлі дар і Неба.
Ахоўнікаў скарбу нам век не стае.

*11.11.2003*

## Самы юны геній

Больш за ўсё люблю паэта –
Аўтара «Пагоні».
Гора здраднікам, каторых
Даганяюць коні.
Ах вы, коні, гром з маланкай!
Не стрымаць Пагоні…
О, нясіце волю, радасць,
Віцязі, Краіне,
І няхай пад мечам здрада
Чорная загіне!

## Славуты

Як біўся за волю славуты паэта!
Народ зваў ён з цемры у сонечны дзень.
Казалі пра нашыя крыўды сусвету
«Адвечная песня» й «А хто там ідзе?».

«Курган», «Бандароўна» нам дух узвышаюць;
У генія стомы й спачыну не знаюць
«Паўлінка», «Тутэйшыя» — дар на вякі…
Ах, як жа дарэчы са сцэны не сходзіць
Любімы ў народзе пясняр памяткі,
Ахвярны і непераможны такі!

## Санцадайны

Я дзіўлюся: колькі фарбаў,
Колькі думак запаветных
У паэта, колькі скарбаў,
Богам дадзеных, адметных.

Колькі ні мінае летаў,
От жа не зліняла слова;
Люба так чытаць паэта,
А таму што творца гэты —
Санцадайны, адмыслова.

## Самотны выгнаннік

Адам Міцкевіч, геній светлы, знаны,
Дар Божы цябе ўславіў на ўвесь свет.
Ах польскамоўны любы наш паэт!
Між іншым толькі польскім скрозь названы.

Мы ведаем: Літвой* зачараваны,
Ішоў па свеце з вобразам яе…
Цябе нам не стае — час настае,
Каб стаў краінай нашаю прызнаны.
Еўропа й свет ці знаюць, дзе ты рос?
Выгнаннік быў: цару не спадабаўся —
І лёс выгнанніка да скону нёс.
Чаму ж і пасля скону ім застаўся?

*Верасень 2003*

## Самаахвярны

Тарас Шаўчэнка — непадкупны волат,
Апостал праўды, рыцар роднай мовы.
Расійскі цар караў яго няволяй,
А не зламаў жа й не пазбавіў слова,
Сам цар-вампір скарыць не змог яго.

Шануе люд пакутніка свайго,
Ахвяраваў што не адною мрояй,

---

* Літвой называўся край, дзе жылі ліцвіны, г. зн. беларусы.

Ўкраіну любячы душою ўсёю,
Чароўную зямлю, прастор яе.
Эх, столькі гора зведаў, столькі стратаў!
Не меў а ні сям'і, ні хоць бы хаты.
Кароткі век пражыў у часе клятым.
А ў памяці ён вечна паўстае.

*2003*

## Майстар Слова

Бог паслаў нам віртуоза ў слове —
Акуліны сына ў добрай славе.
Радуйся, паэзій лад сусветны:
Ад Ушачаў родна-запаветных
Да біблійна-ўзвышаных матываў
У паэта ўсё жыве шчасліва.
Любіць ён высокае тварэнне
І натхняе творцаў пакаленні
На актыўна-шчодрыя здзяйсненні.

## Насуперак нягодам

Ветрана. І золка. Дужа слотна…
Як залежым ад слаты істотна!
Раптам рэзка можа ўпасці
Ціск і тонус, а настрой тым болей.
І пры ўсіх нягодах, пры напасцях
Несці трэба дух высокай волі,
Смелай прагі Бацькаўшчыне шчасця.

Колькі ж ёй стаяць на бездарожжы,
Існаваць без радасці і долі?

*2003*

## Свята

Нябёсы ўсе ў аблоках лебядзіных
І ўся ў пладах зямля. Парой такой
Навее чуццяў шмат дзень нарадзінаў
Асветніцы, паэткі трапяткой.

Маё ты сонца ясна-залатое,
Атулены святлом тваім, жыву.
Цалуючы імя тваё святое,
Я ў скрушным свеце ведаю пра тое,
Што я шчаслівай долю назаву.

*20.09.2003*

## Дар

Казкамі багаты Чудзін,
А й паэта даў ён свету —
Свет няхай дабрэйшы будзе!
Колькі б ні блудзілі людзі,
Одум прыйдзе — быць з паэтам!

## Стваральнік апантаны

Стваральнік, музай цалаваны,
Ты з тэхнароў адукаваных
Рашуча рынуў, апантаны,
Асвойваць велічны Парнас,
Людзей зблізжаць, зблізжаць народы,
Калі паўсюль зашмат нягодаў.
О, творца, абагнаў ты час!

*19.12.2003*

## Музыказнаўца

На тры службы зноўку бегчы трэба…
Ах, як трэба штосьць прыдбаць да хлеба:
Дзеці (іх чацвёра!) хочуць есці,
З імі нельга на паёк галодны сесці!
Як жа паспяваеце, Надзея,
Быць у курсе выбітных падзеяў?
У тэатрах, на выставах вы — як фея;
На канцэртах яркіх вас убачыш,
Цудны свет жыве ў душы, няйначай, —
Эстэтычны свет, о, ясны свеце!
Вам я зычу шчасця й вашым дзецям
І высокіх поспехаў, учынкаў,
Чарадзейка з коскамі дзяўчынкі!

*4–26.10.2003*

# Давераны гожых мелодый

Узрушвае, будзіць ён душы,
Лагодны і чуйна-відушчы,
Адметны ў музычнай прасторы,
Давераны гожых мелодый,
З якімі імкне ён да зораў
І свету нясе асалоду.
Мелодыям жыць у народзе
І славіць пры кожнай нагодзе
Радзіму, каханне, прыроду.

Бог даў — не забіць, не закрэсліць
У таленце сілу й пяшчоту.
Душа пераможа маркоту,
Натхнёная і маладая,
І зможа па-над родным краем
Крыляць мілагучнаю песняй.

*27.04–5.05.2004*

# КУЛЬТ БЕЛАРУСКАЕ КНІГІ

* * *

*Міхасю Казлоўскаму*

1

У нас літаратура ёсць
Максіма, Янкі і Якуба…
О, нам не пагражае згуба:
У нас літаратура ёсць!

Калі ўчытацца — сэрцу люба,
Так вабіць моц і прыгажосць!
У нас літаратура ёсць
Максіма, Янкі і Якуба…

2

Ў нас літаратура ёсць —
Караткевіч, Брыль, Янішчыц…
Хто красу такую знішчыць?!
Ў нас літаратура ёсць!

Не над пусткай вецер свішча,
Як хацеў бы недзе хтось…
Ў нас літаратура ёсць —
Караткевіч, Брыль, Янішчыц…

3

Літаратура ёсць у нас:
Гарэцкі, Чорны, Мележ, Быкаў…
Стамляць не стану пералікам —
Літаратура ёсць у нас!

Літаратураю вялікай
Душа натхняецца не раз.
Літаратура ёсць у нас:
Гарэцкі, Чорны, Мележ, Быкаў…

4

Вялікая літаратура
Душы прапасці не дае.
Над амаральным паўстае
Вялікая літаратура.

Пранеслі сэрцам мы яе
Праз гістарычныя віхуры…
Вялікая літаратура
Душы прапасці не дае.

* * *

Узвядзём жа культуру ў культ…

*Яўгенія Янішчыц*

Культ беларускае кнігі,
Я не пытаю, адкуль ты.
Страшныя ведаеш культы,
Культ беларускае кнігі!

Шмат на шляху зведаў куль ты,
Ад лютых сцюж да адлігі…
Культ беларускае кнігі,
Я не пытаю, адкуль ты.

*2007*

* * *

*Светлай памяці В. В. Машко*

Мне настаўнік адзін беларускае мовы
З захапленнем казаў:
«Перад тым як узяць кнігу “Глёрыя Патрыя”,
Мыю рукі…»
Божа! Як прыемна такое пачуць,
Добра знаючы, што
Пасля кніг некаторых
Мы спяшаемся рукі памыць!

* * *

*Тамары Патук*

1

Промні сонейка ў вачах,
Ні хмурыначкі на твары.
Апрача прасветлых чараў,
Промні сонейка ў вачах.

Пра такую рыцар марыць
Кожны дзень і па начах:
Промні сонейка ў вачах,
Ні хмурыначкі на твары.

2

Яна паэзію чытала
Прачула, сэрца галасамі,
Для школьнікаў у кніжным храме
Яна паэзію чытала.

Не па завучанай праграме
Чытала — й зала замірала;
Яна паэзію чытала
Прачула, сэрца галасамі.

3

Заўважыў я ў вачах прыгожых
Ад Слова слёзы узрушэння,

Душы няўрымснай узвышэнне
Заўважыў я ў вачах прыгожых.

«Душу такую спусташэнне, —
Падумаў я, — не пераможа!»
Заўважыў я ў вачах прыгожых
Ад Слова слёзы узрушэння.

4

Паэзію любяць прыгожыя,
Паэзію любяць сардэчныя.
Яны адчуваюць адвечнае.
Паэзію любяць прыгожыя.

Трымаецца храм не прахожымі,
Там служаць не першыя стрэчныя…
Паэзію любяць прыгожыя,
Паэзію любяць сардэчныя.

## У радасці душа святкуе

*Ірыне Гімпель*

1

Чытанку дзецям падарыць —
Цяжка́я роля і святая.
Для многіх мроя залатая —
Чытанку дзецям падарыць.

Душа прывыкла трапяткая
Натхняцца Словам і тварыць.
Чытанку дзецям падарыць —
Цяжкая роля і святая.

2

У радасці душа святкуе:
Прыйшла чытанка да дзяцей!
Збылася лепшая з надзей!
У радасці душа святкуе.

Ад кнігі добрай лёс людзей
Залежыць, смела так мяркую…
У радасці душа святкуе:
Прыйшла чытанка да дзяцей!

* * *

*Віктару Хурсіку*

1

Калі нямоглая краіна,
Мы добрым людзям дапаможам.
Стаяць не нам на раздарожжы,
Калі нямоглая краіна.

Не пойдзем цёмным бездарожжам,
Ані крывою каляінай…

Калі нямоглая краіна,
Мы добрым людзям дапаможам.

2

Мы кнігі шчырыя напішам
І пракладзём ім шлях належны.
Пра гэты свет, святы і грэшны,
Мы кнігі шчырыя напішам.

Уславім нашу незалежнасць,
Узнімем сцяг. Запоўнім нішу…
Мы кнігі шчырыя напішам
І пракладзём ім шлях належны.

*2007*

## Вернасць

*Але Ходан*

Служэнне кнізе беларускай
Здзіўляе вытрымкай сваёй.
Любоўю моцнае святой
Служэнне кнізе беларускай.
Калі прастой, калі застой,
А шлях сышоў да сцежак вузкіх,
Служэнне кнізе беларускай
Здзіўляе вытрымкай сваёй.



*Святлане Кліменценка*

1

Светлая, прасветлая Святлана,
Не сышоў падзеяў цёмны фон,
Цяжка так душу вярэдзіць ён,
Светлая, прасветлая Святлана!

У чародках непаўторных дзён
Хочацца палётаў не ў нірвану…
Светлая, прасветлая Святлана,
Не сышоў падзеяў цёмны фон.

2

А пачаткам радасных падзей
Стане разняволенае слова.
Слова — ўсіх падзеяў, дзей аснова,
Гэта — найвялікшы скарб людзей!

Хоць у рэчаіснасці суровай
Верыцца у лепшае радзей,
А пачаткам радасных падзей
Стане разняволенае слова.

*2005*



*Міколу Міцковічу*

1

Мой ціхі колішні сусед,
Твае лісты мне свята дораць,
Так многа мне яны гавораць,
Мой ціхі колішні сусед!

Ад іх ідзе ўспамінаў мора,
Дзяцінства прамяністы свет.
Мой ціхі колішні сусед,
Твае лісты мне свята дораць.

2

Цаню, цудоўны мой зямляк,
Твой розум памятліва-ясны.
Твой краязнаўчы дар прыўкрасны
Цаню, цудоўны мой зямляк.

Душой дарос да кніг уласных,
Вучоны ў слове і мастак.
Цаню, цудоўны мой зямляк,
Твой розум памятліва-ясны.

# ДЫРЫЖОР

*Таццяне Валошынай*

Акрыляецца музыкай сэрца —
І ўздымаюцца крыламі рукі.
Не падступіцца хваля дакукі:
Акрыляецца музыкай сэрца.

У храм песні ўвайсці без прынукі
Дырыжору ўсім лёсам даецца.
Акрыляецца музыкай сэрца —
І ўздымаюцца крыламі рукі.

*2007*



*Аляксандру Еўсюкову*

Хор спевам публіку чаруе,
А дырыжор — гаворкай рук.
Хор ловіць майстра кожны рух,
Хор спевам публіку чаруе,

Даносіць песні кожны гук;
Маэстра — жэстамі шчыруе.
Хор спевам публіку чаруе,
А дырыжор — гаворкай рук.

*2007*



*В. А. Шамяцюк*

Даецца нам невыпадкова
Такая рэдкая сустрэча.
О, гэты непаўторны вечар
Даецца нам невыпадкова!

Мне з чыстых вуснаў так дарэчы
Ўзяць, каб узняць да зорак, слова!
Даецца нам невыпадкова
Такая рэдкая сустрэча.

*6.10.2008*



Жыві ўва мне, свет вобразаў
                                        чароўных:
Вясна — разлівам бэзу і чаромхі,
А лета — шчодрым сонцам,
                                        навальніцай
І пахам мёду, красак і суніцаў,
Ты, восень, — найдарожчым сэрцу
                                        скарбам —
Палітрай самых яркіх свежых фарбаў,
Зіма — імклівым спевам завірухаў.
Уражвайце сваім няспынным рухам!

Гады, прыходзьце й радасці дарыце,
Прашу, мяне пакіньце ў лабірынце
Дарог і сцежак Бацькаўшчыны мілай,
Да дзён апошніх там не здрадзяць сілы.

Гады, праходзьце і сваё бярыце,
Мяне, аднак, пакіньце ў лабірынце
І добрых спраў, і думак аб Радзіме
Да самае апошняе гадзіны.
Душа не пастарэе — не баюся, —
Дакуль жыць будзе лёсам Беларусі.

*1965, 2006*



Айчына, я тваю мяжу
Перасякаю рэдка дужа —
Тваімі сцежкамі хаджу;
Калі ж ад’еду — затужу,
Там жураўлямі думкі кружаць.

Тваёю веліччу, красой
Пачаў я дыхаць з Белавежы,
Любімая, ты век са мной,
Належу я табе адной
І ад цябе адной залежу.

Жыву пяшчотаю тваёй,
Малюнкі паўстаюць жывыя
Пад сонцам, поўняй залатой:
То мора жытняга прыбой,
То лён, то краскі лугавыя…

Калі вяртаюся здаля,
Зямлі паклон аддаць гатовы,
Яна, як маці мне, — мая,
А там, дзе вольная зямля, —
Бяссмертная стыхія слова.

Так спачуваю ўсім, каго
Чужына ўсё жыццё таміла,
Хто чах з бязмернаю тугой —
Без роднага кутка свайго,
Без Бацькаўшчыны мілай!



Адкрыцці — дзеці адзіноты,
Сястрыца творчасці яна.
З натоўпам — толькі гамана.
Адкрыцці — дзеці адзіноты.

Вядзе, падобна, сатана
Ўбок ад стваральнае турботы.
Адкрыцці — дзеці адзіноты.
Сястрыца творчасці яна.



Зачараванне і ўзрушэнне,
Палоніце маю душу.
Я з вамі справы ўсе вяршу,
Зачараванне і ўзрушэнне.

Відаць, і шлях свой завяршу
Без абыякавага тлення.
Зачараванне і ўзрушэнне,
Палоніце маю душу.



Летняга ветру дыханне,
Ціха бадзёрыш настрой!
Спёкі не страшна з табой,
Летняга ветру дыханне.

Чую чабору настой,
Бачу жытоў калыханне…
Летняга ветру дыханне,
Ціха бадзёрыш настрой!



Асабістая прастора —
Найвялікшы сэрцу дар.
Я з табою — валадар,
Асабістая прастора.

Невымоўная бяда —
Краты бачыць, а не зоры…
Асабістая прастора —
Найвялікшы сэрцу дар.

*21.08.07*



Радзімы подых акрыляе,
Ён ані з чым не параўнаны, —
Само паветра гоіць раны.
Радзімы подых акрыляе.

Лужок, азерца, лес, паляна…
А ў жыце ветравей гуляе.
Радзімы подых акрыляе,
Ён ані з чым не параўнаны.

*20.09.2007*

# АКТАВА

Як толькі Вялікдзень высокі прыходзіць
І свет паўтарае: «Хрыстос уваскрос!»,
Мацнее адвечная вера ў народзе
У розныя цуды, у шчасце, у лёс.
Калі купалы залацяцца на ўсходзе,
А краскі купаюцца ў свежасці рос,
Не верыцца нават, што ёсць небыццё,
Бо кожную тканку хвалюе жыццё.

# НА СЯЎБУ!

Беларусы, сеяць будзем,
Дбайна зерне варушыць.
Мы павінны жыць як людзі,
А не жыць як набяжыць.

Беларусы, будзем сеяць —
І рупліва будзем жаць.
Сэрцы любяць, рукі ўмеюць…
Будзем долю набліжаць.

Беларусы, сеяць будзем!
Поле памяці ляжыць.
Поле памяці абудзім —
Мы як людзі будзем жыць.

*1990*

# БЕЛАРУСІ

*Рандо*

Няма ў нас мора, ані гор,
Лясы ёсць, рэкі ёсць, азёры —
О, колькі рэчак ды азёр!
Ім давярае неба зоры.
Зямны твой велічны прастор
Чаруе зорныя прасторы.
Праношу думку з даўніх пор:
Ці ты, багатая на творы,
Ёсць Твор?
Тварэц не даў ні гор, ні мора.
Дарэмны грэшнікаў дакор —
Мілей азерца сярод бору
І над ракою звонкі бор…
Ты ўся, з жывым птушыным хорам,
Ёсць Твор.



1

У Шатэрніка майстэрні —
Беларускія сыны.
Тут — як дома ўсе яны,
У Шатэрніка майстэрні.

Знаюць: блізка да вясны,
Да цяпла зямля паверне!..
У Шатэрніка майстэрні —
Беларускія сыны.

2

Слова нашае і дзея —
Ад магутных крывічоў,
Не збаіцца крумкачоў
Слова нашае і дзея.

Да Шатэрніка зайшоў —
Стрэў я вобраз Чарадзея.
Слова нашае і дзея —
Ад магутных крывічоў.

*Люты 2008*



*Кацярыне Праневіч*

1

Так я ўражаны дзяўчынай,
Што стыхіі паяднала:
Вершы, музыку — з вакалам.
Так я ўражаны дзяўчынай!

Неба ёй падаравала
Талент яркі трыадзіны.
Так я ўражаны дзяўчынай,
Што стыхіі паяднала!

2

Талент юны патрабуе
І аховы, й разгарнення,
Руху, пошукаў, здзяйсненняў
Талент юны патрабуе.

Хай ніколі дух тварэння
Жорсткі час не абрабуе!..
Талент юны патрабуе
І аховы, й разгарнення.

*Снежань 2008*



Ваша са мной трыадзінства,
Вера, надзея, любоў,
Я не губляюся, бо
Ваша са мной трыадзінства.

На пуцявіне любой
Вы мне апора з дзяцінства.
Ваша са мной трыадзінства,
Вера, надзея, любоў.

*23.10.2008*

# МУЗЕЙ БАГДАНОВІЧА Ў МІНСКУ

*Таццяне Шэляговіч*

Гаспадыньцы харошай храма прасветлага
Вячэрняю ціхай парой
Я кажу:
— Крочу прыступкамі ганка крутога
Да неўміручай зоркі — Максіма,
Пад аўру яго любові,
У яго мілагучны Сусвет —
І паўтараю
Гэта чалавечнае, сардэчнае — як запавет:
«Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

*Чэрвень 2009*



*Раісе Вайцяхоўскай*

Дом творчасці народнай —
Дом працы плённай, згоднай,
Для ўсіх утульны й родны,
Хто мае дар прыродны,
Дар мастака, паэта,
Артыста ці музыкі…
Хоць іншы дар, магчыма,
Не надта і вялікі.
Дом творчасці народнай
Для ўсіх утульны й родны,
Хто ў пошуках няўтомны
Й ад пошласці свабодны.
Дом творчасці народнай
Шчыруе без прымусу.
Тварэння дух нязводны,
Дзе ў добрай згодзе музы.

*Жнівень 2009*

# НА КАНЦЭРЦЕ ДАНЧЫКА

Перад святам Хрыста нарадзінаў
Данчык да нас завітаў!
Вось, хударлявы, у белай кашулі,
Шчыры, прыязны, такі далікатны,
З сонечнай звонкай гітарай!..
Мора народу
Яго сустракае. Авацыі шквалам.
Голас чысцюткі яго салаўіны,
Такі мілагучны,
Ліецца, купаецца ў моўна-музычнай стыхіі.

Раптам падумаў я:
Што адбываецца?
ЁН спавядаецца
Перад народам,
Каля алтара старадаўняй Пагоні,
Ці гэта вернікі розных канфесіяў
Тут прычашчаюцца рэдкасным шчасцем —
Вернасцю Данчыка і прыгажосцю?

# БЕЛАРУСКІЯ ЭМІГРАНТЫ

*Спн. Юлі Андрусышынай*

Дзяцей з табой, Радзіма, разлучалі…
З крутых дарог замежнага жыцця
Яны глядзелі з болем і адчаем,
Як над табой лунаў няволі сцяг.

Сынам і дочкам клопат, каб з дарогі
Тваёй сышла злавесная імгла.
Яны глядзелі на цябе з трывогай,
Калі забраным краем ты была.

Так, многа зла, Радзіма, ты спазнала,
Ліхіх суседзяў знала — Бог суддзя.
Змяніўся час. Ізгояў ты прызнала.
Яны з надзеяй на цябе глядзяць…

*Лета 1993*

# РАДЗІМА

Малая радзіма… Правал паміж слоў,
Хоць нехта ў іх сплаў і паверыў!
Назваў хтосьці раптам святыню малой,
Аднёс яе ў шэраг памераў…

Існýюць малы пералесак, лясок,
Лужок, і палянка, і поле…
А край,
дзе ступіў ты найпершы свой крок,
Малым не бывае ніколі.

Існýе малая трава і лаза,
Крыніцы вузéнькае ложа.
А край, дзе ты першае слова сказаў,
Малым называцца не можа.

Радзіма… у ёй да сканчэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае малая любоў,
Святыні малой не бывае.

# ВЕЛІЧ РАДЗІМЫ

1

Не завіце радзіму малой:
Зваць радзіму малой — грэх вялікі.
Там ёсць храм і святыя ў ім лікі.
Не завіце радзіму малой.

Там аснова, не ўток. Там шматлікі
Чуццяў рой, неразлучны з душой.
Не завіце радзіму малой:
Зваць радзіму малой — грэх вялікі.

2

Радзіма, твой прастор — да зор,
Хоць ты абмежавана ў межах.
Я ўсёй душой табе належу.
Радзіма, твой прастор — да зор.

Са мною — казка Белавежы,
Сінеча неба і азёр.
Радзіма, твой прастор — да зор,
Хоць ты абмежавана ў межах.

*2005*

# ВЯРТАННЕ ДА КАМЯНЦА

1

Мне, Камянец, краса твая
Ніколі не была халоднай.
Паблізу нарадзіўся я
І рос.
        Ты крэўны мне, ты родны.

Мая шматлікая радня
Здавён тут сем’і гадавала,
У светлых і нягожых днях
Сплаўляла лес і палявала.

А больш гарбелі на палях,
На землях камяністых продкі.
І пры царах і каралях
Жылося продкам несалодка.

Ад старажытнасці сівой
Захопнікі тут не драмалі,
Багаты край пушчанскі мой
Капыцілі і рабавалі.

Хто мог людзей аберагчы
Ад войнаў, вынішчэння й мору?..
І праз стагоддзі шмат аб чым
Нам вежа Белая гаворыць.

2

Дапамагаў ты мне расці
У цяжкі час пасляваенны,
Да мэты вабнае ісці,
Выхоўваць творчы дух нятленны.

Забыцца памяць не дае
Ні ў блізкіх, ні ў заморскіх далях,
Як праз цябе шляхі мае
У свет шырокі пралягалі.

Калі вяртаюся сюды
Здаля, мне раем край здаецца,
Часцей і гарачэй заўжды
Маё ад стрэчы сэрца б'ецца.

О, незабыўны гарадок,
Я ўсёй душой табе належу.
Знаёмы кожны тут куток,
Ад цэркаўкі да Белай вежы.

Навекі любы сэрцу ты,
Твая гісторыя жывая,
Дарог прастора і масты,
Рачулка чыстая Лясная.

Перад красой тваёй святой
Ўсе прызабуду прыгажосці.
Я тут заўсёды буду свой,
Мой край дзяцінства й маладосці.

*19–20.11.2004*

# КУПАЛЛЕ

1

Купальская чыстая зорная ноч
Святочна уся пасвятлела.
Ты, цемра, з дарогі высокае збоч!
Надзея ў душы расквітнела.

Купальскаю ночкаю сэрцы людзей,
Як вокны, расчынены насцеж.
І чыстая песня ліецца з грудзей
Пра блізкае нашае шчасце.

Мая маладая краіна, ідзі
Да сонца дарогай свабоды;
У нетрах сваіх кветку шчасця знайдзі,
І волю, і долю народу.

2

Пад купалам неба квітнее зямля,
Сплятаюцца краскі ў вяночкі.
Купалле святкуе людская сям’я
Пад купалам летняе ночкі.

Вада ачышчэння і воля кастра —
Ад заходу сонца да ўсходу.
Здароўя вам, людзі, любові, дабра,
Высокае еднасці-згоды!

*1988*

# УКРАІНЕ

У маім ты сэрцы, Украіна,
Валадарка шчодрае зямлі, —
Ніў раздолле, кручы і раўніны,
Залатых сланечнікаў палі.

Вартыя найшчырае любові
Песні задушэўныя твае…
У тваёй, такой пяшчотнай, мове
Чысціні крыніца светла б’е.

Поруч з намі ў радасці і ў горы,
Любая сястрыца, з даўніны…
Глянь, у нас арнаментаў узоры
Блізкія, падобныя яны!

Твой прастор, магутны дух, духоўнасць
Вечна будуць таленты натхняць.
Веру і любоў табе ахоўваць,
Процьму зла табе перамагаць.

Пяднаıлася ты з вольнай воляй,
Ёй цяпер павек не здрадзіш ты.
Хай расце, квітнее твая доля
Й беражэ цябе Гасподзь святы!

*1995, 2005*

# КАБЗАР

1

Шаўчэнка з паэтаў мо самы сардэчны,
Душой з Украінаю мілай быў вечна
У самым святым, у ахвярным змаганні,
У краі чужым — на суровым выгнанні.
Хто блізкі з ім чарамі й праўдаю ў слове?
Міцкевіч? Купала? Максім Багдановіч?..
Хто йшчэ шкадаваў так пад гнётам Айчыну,
Паганцам пакрыўджаную цвет-дзяўчыну,
Нябогу-жняю ў полі панскім праклятым,
Любіў так вішнёвы садочак ля хаты?
Хто йшчэ так пакуты прыняў за краіну?

Свет любіць Яго за любоў да Ўкраіны!

2

Тарас Шаўчэнка вершам навучае,
Любоўю вернай прыклад падае:
Не здрадзь Радзіме — біся за яе,
Тарас Шаўчэнка вершам навучае…

Не адракайся ад зямлі свае
Ні ў радасці, ні ў смутку, ні ў адчаі, —
Тарас Шаўчэнка вершам навучае,
Любоўю вернай прыклад падае.

3

Ой, грэшная імперская Расія
З каранаваным Мікалаем Першым,
Бо мардавала Тараса́ Шаўчэнку —
Зрок зоркі, чуйны слых,
                    сумленне Украіны!

Наіўная імперская Расія,
Бо думала, што Мастака-Паэта
Зрабіла вязнем крэпасці-астрога,
Забіла зрок і слых,
                    сумленне Украіны.

Тарас Шаўчэнка,
                    мужны, мудры, слынны,
З вялікім сэрцам, з яснай галавою
Ды з самаробным сшыткам за халявай
Быў самы вольны на ўсім белым свеце.

Замучаны, ён стаўся неўміручым.

*2002*

# НА ПЛАНЕЦЕ ЛЮДЗЕЙ

## УСПАМІН

*Уладзіміру Васілевічу*

І ноч, і маланка, і лівень.
Вёрст дваццаць, напэўна, той шлях.
У нас, апантана шчаслівых, —
Яе чамаданы ў руках…

Дзяўчына дахаты не просіць:
Ля веснічак лёгкіх сваіх
З усмешкай чароўнай падносіць
Вяргіню, адну на дваіх.

Не кліча…
Вяртаемся полем,
Два рыцары, два дзівакі.
А лівень шалёны такі —
Здаецца, не сціхне ніколі…



*Дыяне*

Пазнаёміўся з сакрэтам
Ўсмешкі сонечнай тваёй:
Ты народжаная летам,
Цёплай чэрвеньскай парой!

Ў сонейка ўзяла шмат ласкі,
Каб усмешкай асвятляць
Праз гады прастор брытанскі,
Вабіць любага й кахаць.

Асабліва расцвітаеш
У абдымках ты яго,
Як раз-пораз прылятаеш
З ім да сонейка свайго.

*30.05.2009*



*Леаніду Нікольскаму*

Ўладзімір быў святар
Пры ўладзе камуністаў.
Ён рэдкасны меў дар —
Век жыў сумленнем чыстым.

Багацця не нажыў.
Бо ў краі запаветным
Малітвамі служыў
Прыніжаным і бедным.

Чуў *дзякуй* ад людзей,
Абразы — ад уладаў.
Выхоўваў ён дзяцей
Сваім сямейным ладам.

Адзін з яго сыноў
Красу ў народзе будзіць:
З ім верная любоў —
Ён песняй служыць людзям.

Ёсць талент спевака
І ёсць свая дарога —
Не збочыць з бальшака,
Які вядзе да Бога.

*2009*



*Галіне Дашкевіч*

Абнімем свет сардэчнаю любоўю,
Перад стыхіяй сварак не знямеем.
Замову ад нянавісці займеем.
Абнімем свет сардэчнаю любоўю.

Хай варажнеча ўсякая змарнее,
Зачахне, не ўзбуйнее зло любое!
Абнімем свет сардэчнаю любоўю,
Перад стыхіяй сварак не знямеем.

*6.01.2008*

# СЯМ’Я

Маленькую крыўду ўявілі вы драмай,
Трагічнай здалася няўдача свая,
Але вы вярнуліся зноўку да храма
З высокай і простаю назвай — сям’я.

Забудзьце няўдачы і крыўды таксама,
Змяніце хутчэй, калі ласка, настрой —
Чакае вас храм, цёплы, радасны самы,
Святыня чакае. Не здрадзьце вы ёй!

Сямейныя святы, адвечнае веча
Сабе не дазвольце на вецер пусціць,
Бо ўсё зруйнаваць гэтак лёгка за вечар,
Што так будавалася доўга ў жыцці.

*2000*



Заўважаю праз мроі і сны
Уваскрэсенне травак і кветак.
Ажывае лясок і палетак —
Заўважаю праз мроі і сны.

Так прыемна, хвалююча гэтак
Сведкам быць велікоднай вясны!
Заўважаю праз мроі і сны
Уваскрэсенне травак і кветак.



З вясны у восень — толькі крок,
І гэты крок завецца летам.
Ляціць і кружыцца планета.
З вясны у восень — толькі крок.

Узбагаціся запаветам
У свеце, дзе працяглы мрок…
З вясны у восень — толькі крок,
І гэты крок завецца летам.



Так многа пёраў птушкі белай
Ляжыць у лесе на пагорку!
Навошта на іглiцы горкай
Так многа пёраў птушкі белай!

Які драпежнік, хуткі й зоркі,
Тут паляўнічым быў умелым?..
Так многа пёраў птушкі белай
Ляжыць у лесе на пагорку!

# ЛЕС ПАСЛЯ ЎРАГАНУ

Бярозы, хвоі ды яліны
Ляжаць, як воі, на зямлі…
Уперамешку верхавіны
І наймагутныя камлі.

Наўкола — ямы, як магілы
(Ад бомбаў быццам бы яны);
Стаіць маркотны лес, панылы
І парадзелы, як з вайны.

Тут буры і ў гады былыя
Бяду прыносілі кругом.
Ды ўсталі дрэвы маладыя,
Красой паўсталі і шчытом.

Шчытом былі,
атак ці мала
Адбілі ў хмурнай вышыні!
Цяпер зямля
іх не ўтрымала —
Не вытрымалі карані…

# ПАЛЁТЫ Ў СНАХ

…Над зямлёй мяне ўзнімаюць
Крылаў-рук узмахі —
Пада мной ужо мільгаюць
Сцежкі, гмахі, птахі.

Гэтак вольна, гэтак лёгка
Я ўзлятаю ўгору,
Аглядаюся здалёку —
Анікога поруч.

Застаецца хваляванне
У мяне з турботай
Пра пазбаўленых жадання
Зведаць смак палёту.



На апалы лісток залаты
Ты глядзіш, як на цуда жывое,
Падняла, узняла яго ты, —
Пэўна, сэрца ў цябе залатое.
О, святкуй жа, радня пекнаты, —
Пачуццё далікатна-святое!
Падказаў мне кляновы лісток
Блаславіць чуйны зрок, лёгкі крок.

# ЛЕТУЦЕННІЦА І РЭАЛЬНАСЦЬ

О дай апомніцца ёй, лёс!

*Яўгенія Янішчыц*

Дзяўчынка прагне ўся кахання,
Яшчэ не ведае аб тым,
Які каскад выпрабаванняў
Звязаны гэтак часта з ім!

Яму насустрач так імкнецца,
Яна так трызніць ім, жыве!
Каханне напаўняе сэрца
І ў невядомае заве.

Дзяўчынка пра каханне марыць,
Хоць ёй шапчы, а хоць крычы:
Каханне можа апячы,
Калі маланкаю не ўдарыць!..

# ТРАГЕДЫЯ СЯРГЕЯ ЯСЕНІНА

Таленавіты — значыць небяспечны.
*Яўгенія Янішчыц*

1

Улады ўмелі замятаць сляды:
Забойства самагубствам падмянілі,
Грымёра азадачыць не забылі…
Улады ўмелі замятаць сляды.

Калі, дзе каты геніяў любілі?
Баяліся, ім помсцілі заўжды!..
Улады ўмелі замятаць сляды:
Забойства самагубствам падмянілі.

2

Злачынства страшна грубыя сляды
Былі не надта грымам прыхаваны.
Як іх схаваць — кровападцёкі, раны —
Злачынства страшна грубыя сляды!

Паэт шумеў, характарам буяны,
Бескампрамісны, смелы, малады…
Злачынства страшна грубыя сляды
Былі не надта грымам прыхаваны.

*2005*

# ТУГА ПА БЕЛЫМ СНЕЗЕ

*Аляксею Марачкіну*

У гэтым белым свеце
Суцэльнай мітусні
Туга па белым снезе
Узыдзе ў цішыні.

Па ім туга быць мусіць
Сапраўднаю тугой.
Глыбінна зажуруся,
Каб выклікаць яго.

Святое неба святам
Душу мне ўскалыхне —
Нябёснаю санатай
Наблізіцца мой снег.

О, не жыцця дажынкі,
Не мітусню жыцця
Спяюць мае сняжынкі —
Спяюць палёт, працяг.

Ах, чысціні стыхія,
Сняжынак акіян,
Адмольваю грахі я —
Уваскрасаю я!

Святлее, пасвятлела
Дзён шэрых мітульга.
Туга па снезе белым —
Высокая туга.

# МІХАСЮ КАЗЛОЎСКАМУ

* * *

Далінкі нашыя ды ўзгорачкі,
Вы сэрцу мілыя да слёз.
Мне не Швейцарыю даў лёс —
Далінкі нашыя ды ўзгорачкі.

Той не любіў, хто не пранёс
Шляхоў радзімы шчасце й горачка.
Мне не Швейцарыю даў лёс —
Далінкі нашыя ды ўзгорачкі.

* * *

Ёсць дзеячы, што чалавецтва любяць,
Але не бачаць бліжняга ў бядзе;
Вы не шукайце іх далёка дзе…
Ёсць дзеячы, што чалавецтва любяць…

Ідэі лепшыя і хлеб надзей
Такія, пэўна, лёгенька загубяць.
Ёсць дзеячы, што чалавецтва любяць,
Але не бачаць бліжняга ў бядзе…

* * *

Калі ты ёсць максімаліст,
«Люблю» прамовіць не спяшайся.
Не прысягай, не заракайся,
Калі ты ёсць максімаліст.

Нязручна: кайся, адракайся,
Як расчаруешся калісь…
Калі ты ёсць максімаліст,
«Люблю» прамовіць не спяшайся.



*Анатолю Кузняцову*

1

На камянях святыя лікі
Відушчы выявіў мастак.
У Курапатах Божы знак:
На камянях святыя лікі.

Суддзя дае не проста так
Душы балеснай дар вялікі:
На камянях святыя лікі
Відушчы выявіў мастак.

2

Мастак аблíччам — як манах,
Худы, з глыбокімі вачамі,
Душою — з неба галасамі…
Мастак аблíччам — як манах.

Стварае днямі і начамі
Іканастас на валунах.
Мастак аблíччам — як манах,
Худы, з глыбокімі вачамі…

3

Не мае сцен ягоны храм —
Душой высокай ён узняты.
Мастак стаў духам Курапатаў.
Не мае сцен ягоны храм.

Мароз ці спёка, ў будні й святы
Ты мастака сустрэнеш там.
Не мае сцен ягоны храм —
Душой высокай ён узняты.

*2007*



Пашле Бог радасці хоць кроплю —
Атрутаю не запівай!
Сама сябе не забівай —
Пашле Бог радасці хоць кроплю!

Ты мой наказ не забывай.
Я песняй твой настрой аздоблю.
Пашле Бог радасці хоць кроплю —
Атрутаю не запівай.

*20.09.2007*



Менш радуюся, больш сумую,
Цяпер жыву ў трывозе я,
Бо ў нас на возеры зімуе
Цудоўных лебедзяў сям’я.

Што птахаў змусіла застацца,
Душа адказу не знайшла.
Мо проста цяжка ім расстацца
З вадой, што крылы ім дала?

Не страшны снег ім, беласнежным,
А страшны ім глабальны лёд,
Ім страшны непазбежны холад,
Імклівы маразоў налёт.

З сям’ёю лебедзяў што будзе?
Які чакае птушак лёс?
Ім не дадуць загінуць людзі?..
О, толькі б не забіў мароз!

# ЭПІЗОД ЖЫЦЦЯ

Жанчыне ў снежаньскую сцюжу,
Каб узгадалася вясна,
Падараваў мужчына ружу,
Такі ж самотны, як яна.

Як сон, кароткае спатканне.
Зноў заставацца ёй адной.
На ўсе гарачыя пытанні
Свае
        адказваць ёй самой.

За вокнамі гуляе сцюжа,
Ідзе бясснежная зіма.
Жанчына размаўляе з ружай,
Самотнай, як яна сама.

*30.12.2007*

# ДАРОГА ЖЫЦЦЯ

*Санет*

Нічога багацей не існуе
І цікавейшага няма нічога,
Чым нашая жыццёвая дарога,
Што з вопытам і скарбы нам дае.

За скарбы плацім, колькі сіл стае.
Ды і за вопыт плацім часта многа.
Яна экзаменуе дужа строга.
Мы ад калыскі вучымся ў яе.

Суровая яна: і там і тут
Адважвае спаўна цяжар пакут,
Прытым не па заслугах вельмі часта.

Заўсёды драматычная яна,
Бо абрываецца, нібы струна.
Бязлітасна, тым больш калі заўчасна.

# ТЭРЦЫНЫ

Маё юнацтва, хай сабе нячаста
Успамінаю сціплы вобраз твой:
Я крочу ў восень сцежкай пакручастай,

Вясна ж далёка недзе, за смугой,
Туды вяртацца часу малавата.
Ды кожны раз, як стрэнуся з табой,

Жыве душа сваім спакойным светам,
Бо ты не заблудзілася калісь,
Хоць і было спакусаў мнагавата…

Знаць, ідэалы лёс мой бераглі.

# КАХАНАЙ АДАМА МІЦКЕВІЧА, або ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

Ах, пані Марыля, што ж ты нарабіла:
Любімага сэрца імгненна разбіла!
Была для Паэта Лаурай, багіняй,
У свеце ты стала звычайнай графіняй.

З краіны дзяцінства ды з раю кахання
Чакала Адама чужына, выгнанне.
А пані за графам ці знала нягоды?
А пані графіня ці знала нястачы?
Цябе аддавалі з цвярозай выгодай…
Няўжо не магла ты
свой лёс
перайначыць?!

На згубу Каханне сваё аддала ты —
Пайшла не за любым,
пайшла за багатым.
З нялюбым
надзейна пячатка злучала,
Хоць Неба
з Паэтам цябе
павянчала.



Бачыў дзеўчыну я закаханую,
Стройную, як чараціна,
Свежую і ласкавую,
як раніца весняя.
Поруч з любым стаяла яна,
Яго чаравала
Крыльмі здзіўленых броваў,
Белай магіяй зоркіх вачэй.
Яна яго лашчыла,
Тулілася да яго ўсмешкаю.
Белая зорка дзявочай рукі,
пяць яе промняў
Далікатна ляжалі на ягоным плячы.
Было гэта ў беларускай прасторы,
У нашым мясцовым часе.
Колькі прыпынкаў мы ехалі побач,
Хутка ішоў тралейбус.
Людзі наўкола стаялі,
А яна, закаханая, бачыла толькі яго,
Ёю абранае свята,
Ёю адкрытае шчасце!
Я, той, хто асуджае
Праяўленне кахання на людзях,
Не пазнаваў сябе:
Сэрца маё
Хмялела мацней, чым ад віна.
Заварожаны яе закаханасцю,

Я сурочыць баяўся дзявочае шчасце,
Таму я свой позірк
Кідаў на дзяўчыну крадком.
Калі ж глянуў на яе рыцара,
Быў здзіўлены дужа:
Ён стаяў з алімпійскім спакоем,
Раўнадушна глядзеў на яе.
І я да дзяўчыны звярнуўся моўчкі
З такім натуральным пытаннем:
«Няўжо абыякавы ён
Да твайго хараства, да мілосці?!
Чаму ён такі халодны?»
Зноў і зноўку дзяўчына
Хінулася да яго
Зыркай сваёй прыгажосцю,
Цеплынёю усмешкі.
І закралася думка:
Ці ён прытуліць яе
У цяжкую часіну?
А мо гэткай часіны не будзе?
Каб жа!..

*1995*



Табе, хлапчынка, летні ранак
У лесе даў суніц вядзерца.
Цябе сустрэў я нечакана —
І зашчымела маё сэрца.

З ляснымі ягадамі хлопчык, —
Майго дзяцінства блізкі вобраз
Успамінаю неаднойчы
Час той, што помніцца мне добра.

Лятаў і я калісьці ўлетку
Ў лес, ды не ягадак паесці —
Збіраў чарніцы я нярэдка,
Каб іх на рынак людны несці…

Браў на сябе дарослых клопат
Часцей за ўсё я без прынукі…
З ляснымі ягадамі хлопчык,
У лес вазьму я заўтра ўнукаў.

Смачнейшых ягад не бывае,
Калі свае сабралі рукі.
Хачу, каб гэта адчувалі
Мае сталічныя унукі.

# ГІСТОРЫЯ З ХХ СТАГОДДЗЯ

Жыў-быў атэіст ваяўнічы.
На вернікаў гнеў несучы,
Ён вынасіў план таямнічы:
Царкву падпаліў уначы.

Улады тады былі рады:
Злачынец ім так дагадзіў!
Яго не шукалі улады,
А значыць — і суд не судзіў.

А потым падпальшчык не ведаў,
Не думаў, адкуль і чаго
Страшэнныя ўбіліся беды
Ў сям'ю маладую яго.

…На вогнішча, што ледзь курэла,
Прыгожая жонка яго
Бензінчыку пляснула смела —
Абняў яе моцна агонь…

…Сынок правініўся й баяўся:
Ад бацькі, што быў дужа злы,
Малы ў халадзільнік схаваўся,
І там задыхнуўся малы.

А сам гаспадар неаднойчы
Да ночы да позняе піў,
А неяк курыў, п'яны, ноччу
І сам сябе ў ложку спаліў.

# ВЕРШЫ ДЛЯ Н.

* * *

Дождж незвычайны,
які я люблю і вітаю
Роўна і ў студзені
так, як і ў маі, —
Дождж твайго почырку,
ведаеш ты,
Пэўна, адзіная сведка…
Жаль, што лісты
Мне пасылаеш так рэдка!

*13.01.2009*

* * *

Так хораша ты выглядаеш
Пад ношай пяцьдзесят плюс пяць!
Такая гожа-маладая
Душа ў цябе, па ўсім відаць.

Міжволі ўспомніў: выйшла з казкі,
Насуперак вятрам крутым.
Гарэлі на сукенцы краскі,
Як на кіліме лугавым.

* * *

Пісьменніцу таленавітую,
Дзяржавай і СП забытую,
Немаладую, хваравітую,
Адно не забываеш ты.

Усхваляваны я, узрушаны
Тваёй спагадаю нязмушанай,
Нічым дагэтуль непарушаным
Тваім запасам дабраты.

* * *

Па службе, кажаш, ціхай сапай
Пайшлі сучасныя ваўкі,
Ў іх вочы сквапныя і лапы
І дужа вострыя клыкі.
Няхай баяцца іх авечкі,
Што разумець патрэбна так:
Слабыя духам чалавечкі…
Ты ж не баішся іх атак,
Бо крэпасць у табе жывая.
О, ты не кінешся ў кусты!..
Ды помні, што перадавая
Абапіраецца на тыл.

*29–31.05.2009*

# НЕБАНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Юнак шукаў жаданую —
Прыгожую і шчырую,
Але ў юнацтве й сталасці
Фальшывых сустракаў.

Дажыў ажно да старасці
Ён, малады па сутнасці,
І шчырую каханую
Усё-ткі напаткаў.

Спаткаў ён шчасце поўнае —
Душа развесялілася:
З’явілася вялікае
Святое пачуццё.

Так радасць невымоўная
У сэрцы пасялілася,
Што нездарма пражытае
Самотнае жыццё.



«Меней гавары, а болей слухай», —
Вучыць талерантны наш народ
(Не адну, вядома, сотню год).
Хочаш сэрцам, хочаш, толькі вухам
Мудрую параду успрымай.
Бо народ абачлівы гаворыць
(Каб як меней ведалі мы гора):
«Людзей слухай, а свой розум май».

*17.07.2003*

# ЛІРЫЧНЫ ЖАРТ

*І. К.*

Паэтка-брунетка
Цвіце, быццам кветка,
Авоські не любіць насіць —
Прыдбала машыну
Й не горш за мужчыну
Умее машыну вадзіць.

Чакаю сяброўку,
Што любіць вандроўкі,
Бо я ж іх адвеку люблю;
Яна без прынукі
Свой руль возьме ў рукі,
А паліва я прыкуплю.

Паедзем за мора,
За сінія горы,
Дзе лётаюць вольна арлы.
Ўсе справы завершым.
Даверымся вершам
І зловім з ёй кайф немалы.



*Таццяне Мельнічук-Караленка*

Парою думаю пра шчасце,
І мне адказу не знайсці:
Чаму не шчасціць гэтак часта
Харошым людзям у жыцці?
Я шчырым сэрцам і душою
Люблю, цаню, шаную іх.
Так часта шчасцейка чужое
Залежыць ад людзей такіх!



*Валянціне Стэльмах*

Калі такая ў голасе лагода,
Мо ў сэрцы салавейкі круглы год?
Ніяк не можа быць на сэрцы лёд,
Калі такая ў голасе лагода.

Мне паўтарыць прыемная з нагод,
Жадаючы не зведаць вам нягодаў:
Калі такая ў голасе лагода,
Мо ў сэрцы салавейкі круглы год?

# ЧЫСТЫ ШЛЯХ

*З. П. М.*

Пасля вячэры люднай развітальнай
(А прад усім — напружанага дня)
На нейкі міг здаецца нерэальнай
Заснежанага шляху цішыня.

Шырокі шлях і чысты,
быццам млечны,
І далікатны падае сняжок
На дрэвы, на зямлю і нам на плечы,
На пышны капюшона беражок…

Хай тонуць зоры
ў глыбіні бясконцай,
Святло вачэй так блізка, слоў магніт!
Экватар адчуваецца ў гамонцы
І сонечнае шчырасці зеніт.

# БЕЛАРУСКІЯ ЛЕБЕДЗІ

*Зімовы эцюд*

Ах вы, лебедзі, птахі божыя,
Грацыёзнасцю так прыгожыя!

Краю цёплага не шукаеце.
Што ж ад холаду не ўцякаеце?

Краем рэк, азёр вы прыручаны,
Есці белы хлеб тут прывучаны —

Шчасце вашае ці трагедыя?
Я не ведаю, ой, не ведаю!

…На прастору вод — маразоў налёт,
Ўсё бліжэй да вас падступае лёд.

Дзе вы, лебедзі, заначуеце?
На малой вадзе што адчуеце?..

Раніцой бягуць людзі да вады:
«Як тут выбрацца лебедзям з бяды?

Памажы ты ім, сонейка ўзыход!
Адступі, мароз! Растапіся, лёд!»

Рызыкуеце, птахі смелыя, —
Тут зімуеце, снежна-белыя.

Беларусь мая — вам адзіная.
Вы — адна сям'я лебядзіная!

Колькі ж радасці невымернае
Людзям дорыце, птахі верныя!

*2005–2006*

# ЖАБРАЧКА І ПАЭТ

Ля метро, на бетоне, жабрачка-нябога
Пасылае прашэнне да Бога.
Адрасата яно не знаходзіць,
Проста ў космас халодны сыходзіць:
Жабраванне (ўжо сталася так) —
З'ява звыклая, як
У метро, ў падзямелле дарога,
Як за горадам лыжная траса,
Як начны рэстаран, казіно,
Як у крамах віно,
Як агністыя шыльды — здалёк іх відно,
Як аншлаг на канцэртах пустых певуноў,
А ці нейкая іншая трасца…

Прыпыніўся, стаю.
«Памажы, Божа, ёй,
Рабе ўбогай Тваёй», —
Не шапчу я, маўчу
І хутчэй кашалёк дастаю,
Ўсё гатовы аддаць, даастатку,
Што з пенсійнага маю дастатку,
Ахвярую ў азяблыя рукі —
І з дакукі
Выплывае гаротніцы твар.
(Поруч людзі снуюць — блізка нейкі базар
І да храма дарога.)
Бабка дзякуе мне імём Бога.



Сустрэчы, і разлукі,
І радасці, і мукі,
Дары і ўдары лёсу —
Усё даюць нябёсы?
Прасветлыя днём ясным,
Уночы — з зарападам,
Узброеныя часам
Маланкамі і градам!

*7.08.2003*

# СЯРГЕЮ ЯСЕНІНУ

Еще суровей и угрюмей
Они творят его дела…

*Сяргей Ясенін*

У зман і ты прыходзіў з лірай,
Ад банды й ты чакаў дабра,
Паэт наіўны — верыў шчыра
Таму, хто ўладу ўсю прыбраў.

І не хацеў, ды аб суровым,
Панурым тым тварэнні спраў
Сказаў такім дакладным словам —
І як бы драму прадказаў.

Яны тварылі, натварылі:
З паўсвету лагер утварылі,
Каб страх народы скаланаў.
Страх па дамах ішоў, па хатах…
Каго забілі ў Курапатах,
А хто на Калыме сканаў.

Вось я падумаў: пажыві ты,
Праслаў тырана на ўвесь свет,
А быў бы ўсё адно забіты
Як ненадзейны, бо — паэт,
«Кулацкі» там ці «буржуазны»…
За тое, што меў розум ясны,
Гразіла ўжо табе Сібір.
Ну а калі апела ліра

Кагосьці, акрамя вампіра,
Ці дараваў бы той вампір?

*1989–1990*

# І ЗАГАДКА, І ФЕНОМЕН

*Галіне Сідорык*

Дочкі просяць тваёй дапамогі,
А маленькія ўнукі — увагі,
Муж былы — на бутэльку «чарніла»;
Аўдавелыя рана мужчыны
Шчыра просяць тваёй рукі.

А дзяржава адно патрабуе
Ёй служыць з максімальнай аддачай,
І выкладвацца мусіш, бо трэба
Неяк зводзіць з канцамі канцы.

Пасля працы ў цябе адчуванне,
Быццам толькі сышла з парахода,
Так плыве пад нагамі тваімі,
Бы з-пад ног уцякае, зямля.

Справы хатнія — змена другая.
Хобі маеш — гадуеш вазоны.
А яшчэ ты — рабыня «фазэнды»,
Там кладзеш выхадныя дзянькі.

Як яшчэ умудраешся неяк
Апранацца прыгожа і свежа
І рабіць супер-моднай прычоску,
Слухаць песні, раманы чытаць?!

О, загадка таемнай прыроды
І свайго самавітага роду,

Беларускай трываласці школа
І феномен жаночай красы!

*Жнівень 2003*

# ЖЫЦЦЁ

Ні з песняю, ні з казкаю чароўнай
Жыцця не параўнаю прыгажосць
(Такія параўнанні ў свеце ёсць) —
Непараўнаны дар жыцця, дар невымоўны,

Такі загадкавы, такі цудоўны!
Хоць драма ў ім, ды ў ім і весялосць,
У ім вясна жывая — маладосць,
Там радасці, там чараў, мрояў поўна!

Жыццё — найдаражэйшы дар, бясспрэчна,
Нам дадзены аднойчы і навечна,
Каб неслі мы высокі гэты дар,

Ахоўвалі яго, аберагалі,
Каб выпадкова ў карты не прайгралі,
Не прапілі пад плотам як тавар.

## АДВЕКУ

Калі ўмірае родны чалавек,
Здаецца, што звужаецца прастора
Ад болю, смутку цяжкага, ад гора,
Што ён пакінуў свет, сышоў навек.

Журба-жалоба ўсё ў табе жыве,
Ты з ёй па свеце ходзіш, нібы хворы,
І ў ясны дзень цябе абступіць морак,
Няма спакою сэрцу й галаве.

Калі нам родны хтосьці памірае,
Царква жывых малітвай суцяшае,
Спадзеўкаю на вечнае жыццё.

Як прашчур твой калісь, ты ставіш свечку.
А там чакае — як дарога ў вечнасць —
Ужо й цябе самога небыццё.



Абяцай:
калі я на зямлі ўсіх пакіну,
Не ўпадзеш ты ў працяглую скруху.
Хай развага паможа расстайнай часінай:
Воляй неба усё падначалена руху.

Непахісны прыроды закон векавечны
І прысуд непахісны ягоны:
У зямным мітуслівым жыцці хуткацечным
Мы ўсе толькі часовыя звёны.

Ды жыццё на зямлі нездарма нам даецца.
Як напоўніш яго незямною
Ты любоўю — душа твая жыць застанецца
Над балючаю хісткай мяжою.

*Ліпень–жнівень 2003*

# УНУШЭННЕ

Ты сам сябе ў старыя залічыў,
Гадоў сваіх пачаў баяцца ношы,
Бяссоннымі зрабіў раптоўна ночы,
Ратунак твой — аптэкі і ўрачы.

Што рухацца павінен, не ўлічыў,
Забыў, што па жыцці нядаўна крочыў,
Ты ўпаў душой, бы хто цябе сурочыў, —
Адчуў сябе нібы ў паралічы.

Няўжо табе усё яшчэ не ясна:
Ты правакатар старасці заўчаснай,
Ёй паказаў, як да цябе прайсці.

Кульгаць пачаў, узброіўся падпоркай…
Шпурні хутчэй свой посах сумна-горкі,
Ўсміхніся сонцу, тэпай па жыцці!

# ЗАЛАТАЯ ПАРА ЛІСТАПАДА



Заняты «ціхім паляваннем»,
Па лесе восеньскім хаджу.
Забыўшыся на хваляванні,
Я радуюся свежым раннем,
А дзень захмарыцца — тужу.
Прырода мне настрой дыктуе,
Ўлюбёнаму ў яе лясы,
Ад стрэсаў горада ратуе,
Мне цішынёй душу бінтуе
І жывіць водарам красы.



Сцежка, дарога, прастор —
Шчодры жыцця падарунак.
Шляху зямнога кірунак —
Сцежка, дарога, прастор.

Верны пазнання варунак,
Шлях ад парога да зор:
Сцежка, дарога, прастор —
Шчодры жыцця падарунак.

# РУХ ПРЫРОДЫ

1

Скрозь завядае снег і прападае.
Што ўбачыла, зямліца, ў доўгіх снах?
Нясе табе свабоду
маладая
Квітнеючая спеўная вясна.

2

Пяшчотныя ў садах завеі цвету,
Даўжэе дзень, і большае святла.
Кругом усё жывое прагне лета,
Жаданага і росту, і цяпла.

3

Рабіна ўся ўпрыгожана рубінам,
Ліст на бярозе першы залаты.
Сыходзіць лета, каб яго любілі
І памяталі: блізка халады.

4

Так шчодра ззяе сад, а лес палае —
Паўсюль багацце колераў, пладоў…
Ступае восень, мякка саступае
Пары снягоў, віхураў, маразоў.

5

Ізноў — зіма, аздобленае ўбранства
Дзівуе хараством. Чароўны час…
У зменлівасці бачыць пастаянства
Прамудрая прырода вучыць нас.

*2004, 2007*



Калі прыходзіць юная вясна,
Усё ўспрымаецца так свежа!
Буслянка ажыўляе вежу,
Калі прыходзіць юная вясна.

Прастор тваёй душы належыць,
А не сляза на шыбіне акна…
Калі прыходзіць юная вясна,
Усё ўспрымаецца так свежа!



У шчодрай прыроды
Ўсе нешта бяруць,
Шчыруюць — спякотна ці золка:
Драпежны павук
Назапашвае труць,
Няктар нясе ў вулей
Ахвярная пчолка…



Жаўрук на трапяткой струне,
Здаецца, шар зямны трымае,
Яго да сонца падымае
Жаўрук на трапяткой струне.

І ласку птахаву прымае
Зямля — да сонейка імкне.
Жаўрук на трапяткой струне,
Здаецца, шар зямны трымае.

*28.03.2004*

# МАЁВЫ ВЕЧАР

Так апантана поўня свеціць!
Зіхціць ліства.
                    Трава ў расе.
Падаць рукою — зор сuквецце
Над галавой ва ўсёй красе.

Спакою, сну мацнее ўлада
Ў прасторы сцішанай зямной.
І толькі салаўёў рулады
Пануюць разам з цішынёй.

*24.05.2002*



Так пяшчотна шуміць жыта,
Бы гамоніць з васількамі.
Лашчанае жаўрукамі,
Так пяшчотна шуміць жыта!

Зерне пешчана рукамі,
Сонцам каласы наліты.
Так пяшчотна шуміць жыта,
Бы гамоніць з васількамі.



Пушча — высокі сабор,
Пушча — змястоўная кніга,
Дух твой бяру я з сабой
Ў спёку, ў мароз і ў адлігу.

Твой самавіты спакой
Радуе сэрца спрадвеку,
Ён пасля ласкі людской —
Першы дарадца і лекар.

# СВЕТЛЫ ВОБРАЗ АДВЕЧНАГА ЛЕСУ

Калі бяроза з ветрам б’ецца,
Ў зямны ўпіраючыся шар,
Мне ў пушчы велічнай здаецца:
Ёсць у бяроз душа.

Калі бярозы ў родным краі
Красу узносяць да нябёс,
Я апантана паўтараю:
Душа ёсць у бяроз.

Бурлівы час нідзе, ніколі
Ўва мне любві не заглушаў.
Кажу я з радасцю і з болем:
Ёсць у бяроз душа.

# РЭЧКА ЛЯСНАЯ

Ты і не шлях для параходаў,
Ды і не сіла для турбін,
Лясная-рэчка, твае воды —
Спакойны дар.
Сярод раўнін
Ідзеш з-пад пушчы на прасторы,
У паўнаводдзе ты ідзеш,
Дасягнеш Буга, з Бугам — мора,
І ў моры ты не прападзеш.
У хвалях пругкіх і высокіх
Пад небам сонечнага дня —
Твае нязводныя вытокі,
Крынічак ззяе чысціня.
Век застаешся маладою,
Сілкуеш з даўніны сівой
Свет белы — гойнаю вадою,
Душу — лагодаю сваёй.

## ПРЫРОДНАЯ МУЗЫКА

У пушчанскай старонцы маёй
Сосны — быццам бы струны магутныя,
Што злучылі нябёсы з зямлёй
І жывуць іх адвечнымі гукамі.

У пушчанскай маёй старане
Лад бяроз — бы магутныя клавішы,
Толькі вецер іх вольны кране —
Льецца музыка, свет белы славячы.

# ЗАПАВЕДНАЯ, ЗАПАВЕТНАЯ…

1

Старажытны лес раздольны,
Зуброў-волатаў гадуеш,
Ласёў, ланяў, арлоў вольных,
Ды спрадвеку стрэлы чуеш.

Зведаў шмат крывавых драмаў
Ад налётаў нечуваных
Каралёў, цароў і хамаў
(Не спазнаў хіба што ханаў).

Лесе гожы, лес багаты,
Рабаваны, абстраляны,
Хто падлічыць твае страты?
Хто твае загоіць раны?

2

Ведай, мой край дарагі, самавіты,
Радасць ізноўку душа набыла
Тут ад ялінкавага малахіту,
Срэбра бярозкавага і святла.

О, мая пушча, мая ты надзея,
Свята адвечнае Белай Русі!
Сэрца стамлёнае п’е эліксір —
І забываюся, хто я і дзе я.

О, мая пушча, краю зялёны,
Свет падуладны і вечна жывы,
Мужна ўзнімайся
над цвёрдаю кронай
Чалавечае галавы.

3

Старажытная пушча — рэліквія,
Самы блізкі і шчыры храм,
Ты мне — вера, любоў і рэлігія,
Не аддадзеныя вятрам.

Неўміручая, запаведная,
Як святыня і спеў салаўя,
І як спадчына — запаветная.
Ты са мной, як і песня мая.



Я слухаю восень вачыма і сэрцам.
Не ведаю больш пранікнёнай пары.
У белых аблоках — сінечы азерцы
І сонца з захмар’я жаданы прарыў.

Параніць тугой мяне клін жураўліны,
Прапаліць мне сэрца журбой лістапад.
А сёння да вогнішча зыркай рабіны
Мяне ціха кліча задумлівы сад

Яшчэ далягляд не зацягнены слотай
І вабяць лясы маляўнічай красой:
Там ззяюць бярозы лістоў пазалотай,
Дзе фон малахітавы елак і хвой.

Мне бачыцца восень
не простаю стрэчнай —
Пра неба й зямлю суразмоўца яна,
Пра веліч жыцця,
пра імгненне і вечнасць,
Пра тое, што ў ёй
толькі дрэмле
вясна.

Я слухаю неба ў рухомых аблоках
І пышныя вогнішчы родных рабін
І далеч відушчым пранізваю зрокам,
Адкуль хутка з’явіцца жораваў клін.

*1990–1994*



Залатая пара лістапада…
Больш удумнай не знаю пары.
Цуд-карціны умее стварыць
Залатая пара лістапада.

Лес у колерах яркіх гарыць.
Свет прыроды жыве сваім ладам.
Залатая пара лістапада…
Больш удумнай не знаю пары.

*27.10.2002*

# ЗІМОВАЕ ХАРАСТВО

Зіма. Раздолле снегавое,
У полі свежая лыжня,
І нечаканы бег каня,
І заварожаныя хвоі —

Усё так міла сэрцу й зроку,
Такое блізкае душы!
Марозныя і даль, і шыр
Звіняць перад знямелым крокам…

Нягода прыйдзе і паволі
Нам шэры дасць адбітак свой.
Ды ўбачанае хараство
Не перакрэсліцца ніколі,

Мажорнай музыкаю гожай
Вяртацца будзе ў цішыні.
Нішто малюнкі чысціні
Забраць у памяці не зможа.

*2002*

# У ДАРОЗЕ

Над дарогай месяц-поўнік
Нам насустрач наплывае.
Ноч таемнасць набывае.
Над дарогай месяц-поўнік.

Ноч святлейшай не бывае,
Ці святлейшай я не помню.
Над дарогай месяц-поўнік
Нам насустрач наплывае.



Прыемна і сэрцу, і зроку:
На дрэвах лісты не дрыжаць,
Чародкі бялюткіх аблокаў
Па-над гарызонтам ляжаць.

Над лесам, над рэчкай, над плёсам
Блакітам звініць вышыня.
Жывую карціну нябёсаў
Назваць я хачу *цішыня.*

# ЗАХОД СОНЦА

Як сонца заходзіць,
карціны такія
Сустрэнеш парой — не адвесці вачэй:
Падобныя хмары на хвалі марскія,
Сам захад — за лаву вулкана ярчэй.

Мяняюцца колеры неба імкліва.
Цямнечы пакуль не здаецца святло.
А сонейка бледнае йдзе сіратліва,
Бы ўвесь залаты свой запас аддало.

*2003*

# ІМГНЕННІ

* * *

Сонца ўзыход мажорны
І захад мінорны.
Паміж імі — мае дні і ночы.

* * *

Маятнік не вагаецца,
Ён «вагае» час.

* * *

Шырокі невад.
Тонкая вуда.
Глыбокая вада.

* * *

Гучыць ва мне аркестр
Ад святасці кахання.

* * *

Сцежкі слядоў галубіных на снезе
Нагадалі мне вышыванку.

* * *

Парадзелая крона
Асенняга клёна,
Пышны колішні чуб свой
Чамусьці я ўспомніў.

* * *

Маленькае сэрца птушынае
Вялізнай валодае сілаю:
Асільвае немагчымае —
У вырай дарогу і з выраю.

* * *

Нельга на Зямлі
Без агню, без вады!..
Сціплы, як вада,
Згараю агнём.

* * *

Немагчыма дзяцінства водар
Адарваць ад прасторы і часу.

* * *

Палёты ў снах: адлюстраванне
Стану душы? Ці прадказанне?..
Ці думкі вольнае дзярзанне?

* * *

Дзве стыхіі ў адной прасторы:
Вецер вые за акном,
Цішыня ў пакоі.

* * *

Жыццё, напоўненае сэнсам,
Ёсць паўнацэннае жыццё.

* * *

Італія, краіна маёй мроі,
Нашто забрала тваё мора
Жыццё мастака, майго земляка?

* * *

Няўжо ёсць чалавек,
Які можа сказаць:
«Я завяршыў усе справы»?

* * *

Спаткаліся, стаім, гамонім.
Вясна тваіх вачэй
Насупраць лета маіх вуснаў.

* * *

Рэкордна халодны май.
А ў мяне ён рэкордны
Ў сэнсе абдымкаў і пацалункаў.

* * *

Пад крылцамі веек тваіх —
Увесь кантынент майго сэрца.

* * *

Гаворыш: «Днём бачу зоры
І ночкаю — сонца!..» —
То сонечна-зорныя словы,
Выява пачуццяў высокіх.

* * *

Дні і ночы кароткія
Ў маладога кахання,
Пацалункі — салодкія,
Горкі смак расставання.

* * *

У вачах тваіх незвычайных
Я спаткаўся з вясной,
І з крыштальнае чары
П’ю нібы не віно —
Твае хмельныя чары.

* * *

Засынаю з усмешкай на вуснах:
Столькі стрэў за дзень белы
Я любімых людзей!
Зноў праходзяць яны прад вачыма.

# ВЕРШАРОЗДУМЫ

* * *

У вадзе, каля берага блізка,
Кракадзіл распластаўся хітра.
Прыйшла антылопа
наталіць вадой смагу,
Кракадзіл наталіў ёй свой голад.

* * *

Санітарамі фаўны
Драпежных звяроў называюць.
Але проста звярамі
Называюць двухногіх
Драпежнікаў лютых.

* * *

Дыктатары ўсіх часоў і народаў
Стаялі на спінах пакорлівых,
Падмінаючы лёсы вольналюбівых.

* * *

Ён прыносіць у хату кнігі,
Як вочы мудрацоў, добрыя
І, як душы дзяцей, чыстыя.
Яна абураецца: «Як вытрываць гэткі завал!»
Ён ставіць кнігі на відным месцы,
Нібы святыні, каб звяртацца да іх.
Яна хавае ў цёмныя закуткі,
Кладзе на бетон балкона,
Бы зношаную апратку.
Што гэта? Несумясцімасць?
Суіснаванне? Пад адным дахам.

## Прадвесне

Блакітныя праталіны
У хмарах расцвілі —
Высокія прадвесніцы
Пралесак на зямлі.

* * *

На заraслі ціхай травы, на лісты
Слязіначкі зорак упалі.
Маўчанне травіцы, адкажаш мне ты:
То радасці слёзы ці жалю?

* * *

Калі я любуюся дзецьмі сваімі
ці расчароўваюся ў іх,
часам прыходзяць думкі:
якія былі б у мяне дзеці
з іншай жанчынай?
Або з гэтай самай,
але зачатыя ў іншы час,
пад іншым становішчам месяца, зорак
ці вынашаныя ёю з ідэальным настроем?

І, нарэшце, неяк баючыся,
нібы яна здрадніца,
з’яўляецца думка:
якія былі б дзеці
ў маці маіх дзяцей
з іншым мужчынам?

* * *

Што надыходзіць канец свету,
чулі ў свой час
бацька мой, дзед мой і прадзед.
А тут мае дзеці і ўнукі прыйшлі
з надзеяй на белы свет.

*2003*

# Змест

## СВЯЦІСЯ ІМЯ ТВАЁ

ДЗЕ ТЫ?

НА СЯЎБУ!

## НА ПЛАНЕЦЕ ЛЮДЗЕЙ

ЗАЛАТАЯ ПАРА ЛІСТАПАДА

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

# Незавіцерадзімумалой

*Кніга паэзіі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Аскерка*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Аскерка*

Падпісана да друку 21.09.2009. Фармат 60x84 $^{1}/_{32}$
Друк афсетны. Папера афсетная. Гарнітура Times.
Ул.-выд. арк. 7,18. Ум. друк. арк. 5,6.
Наклад 500 асобнікаў. Зак. 828.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.** E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП 02330/0150482 ад 25.02.09.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.